PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 45 (2165) Год XLII Беласток 9 лістапада 1997 г. Цана 1 зл.



*Зіма завітала ў кастрычніку.* Фота Віктара ВОЛКАВА

## У нумары



# Бардаўская восень '97

Сёлетні чацвёрты бардаўскі фестываль, які адбыўся 25 і 26 кастрычніка ў Бельскім доме культуры, паказаў, што апрача аўтарскай песні існуе іншая форма выступленняў, якую цяжка будзе надалей спалучаць з сапраўднымі бардамі. Усе выканаўцы з Беласточчыны адышлі ад традыцыйнай аўтарскай песні і, згодна з запатрабаваннем моладзі, апрача песні паставілі на спакойную апрацаваную музыку, якой узровень штогод павышаецца. Выканаўцы з Беларусі, за выключэннем „Фіесты", паказаліся ў традыцыйнай форме і журы мела праблему на якую песню паставіць. Нават арганізатары са Звязу беларускай моладзі пачалі задумвацца, ці ў будучыні не раздзяліць фестываль.

— Музыка, якую прэзентуюць нашы гурты, нам намнога больш падабаецца, чым салісты з Беларусі, — гаварылі ліцэісты з Гайнаўкі. — Гурты паказваюць цікавую музыку, а калі спяваюць салісты, мы нават усіх слоў не разумеем.

Іншую ацэнку давалі знатакі аўтарскай песні, якія з захапленнем успрымалі выступленне Алеся Камоцкага — непаўторнай бардаўскай зоркі, лаўрэата з 1995 года.

— Шкада, што не змаглі даехаць іншыя славутыя барды з Беларусі, — гаварылі ў час перапынку гледачы. — Калі чалавек слухае Алеся Камоцкага — ведае, які павінен быць сапраўдны бард.

Як інфармавалі арганізатары, у гэтым годзе не даехала восем выканаўцаў (трох з Беласточчыны і пяць з Беларусі). Несумненна мела гэта ўплыў не толькі на час конкурсу, але і на яго ўзровень. Конкурсная частка, якая праходзіла ў суботу, паказала, што не было талентаў, якія можна было б паставіць у адным шэрагу з Віктарам Шалкевічам, Алесем Камоцкім ці Андрэем Мельнікавым.

Журы, старшынёй якога быў Андрэй Сцепанюк, бурмістр Бельска-Падляшскага, узнагароду Гран-пры дало Вользе Акуліч з Менска. Можна сказаць, што найвышэйшай узнагароды дабілася шчырая аўтарская песня, якая адлюстроўвала з аднаго боку перажыванні і турботы, а з другога — узнёслыя моманты кахання. Спакойны голас і рэфлексійная тэма песняў Вольгі Акуліч не выклікалі ў публікі ўзнёслага настрою, як гэта робяць патрыятычныя песні, але асабістыя словы і музыка прыводзілі публіку ў настрой задумы. Узнагароду Радыё Беласток і магчымасць запісу касеты ў ягонай студыі „Рэмбрант" атрымаў гурт „The Dvery" з Гайнаўкі. Мусяць, аднак, хлопцы папрацаваць яшчэ над фанетычным бокам сваіх песень, бо так, як у многіх выканаўцаў з Беласточчыны, ёсць недахопы. Дзяўчаты з Маладзечна (з ансамбля „Фіеста"), якія паспрабавалі зрушыць публіку больш вясёлай песняй, атрымалі ўзнагароду ад Рады бацькоў Пачатковай школы н-р 3. У гэтым годзе Рада бацькоў Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім узнагародай надзяліла гурт Дарафея Фіёніка. На гэты раз бельскі бард выступіў у суправаджэнні калектыву ў пашыраным складзе. Апрача Хрыстафора Шымковіча і Алега Кабзара памагалі яму чатыры маладыя дзяўчыны. Хаця Фіёніка падвёў мікрафон (некальні разоў адварочваўся ад спевака), можна было паслухаць займальную музыку з прадуманымі тэкстамі. Другім узнагароджаным салістам быў каваль, сталяр і спявак у адной асобе — Валеры Жамойцін з Гародні, які атрымаў прыз Бельскага аддзела БГКТ. Як адзіны, сярод узнагароджаных, закрануў ён тэму вялікай палітыкі, спяваючы пра гранічны стоўб Лукашэнкі і Чарнамырдзіна.

Хаця ў гэтым годзе было менш палітыкі, асоба прэзідэнта Лукашэнкі паяўлялася некалькі разоў.

— Як жа не закранаць палітычных тэмаў, калі ў Беларусі такая рэчаіснасць, — гаварыў Зміцер Бартосік, журналіст „Нашай Нівы" з Менска, у песні якога быў водгук на верш Славаміра Адамовіча „Убей президента".

Публіку заваражылі таксама зоркі „Бардаўскай восені" мінулых гадоў. Алесь Камоцкі — жывая гісторыя бардаўскай песні (як гавораць пра яго) не падвёў і на гэты раз. Яго лірычныя песні з займальнымі рэфлексійнымі тэкстамі зачароўвалі публіку ў суботу і нядзелю. Гурт „Брага", які выступіў у нядзелю, выклікаў асаблівае зацікаўленне ў школьнай моладзі. Апошняй выступіла Кася Камоцкая, якой незвычайны голас і непаўторныя рэфлексійныя і патрыятычныя тэксты пацвердзілі, што нездарма была раней пераможцам фестывалю. Публіка пацвердзіла гэта гарачымі апладысментамі.

На жаль, не змаглі даехаць іншыя вядомыя беларускія барды: Андрэй Мельнікаў (які знаходзіцца ў арышце), Сяржук Сокалаў-Воюш і Алег Атаманаў. Спазніўся некалькі хвілін на выступленне Віктар Шалкевіч.

У гэтым годзе публіка была больш разнародная. Паявілася больш старэйшых асоб, якія прыйшлі паслухаць беларускую песню. Традыцыйна ўжо двума аўтобусамі даехалі ў нядзелю ліцэісты з Гайнаўкі. Седзячы побач сябе, успрымалі яны музыку найбольш спантанна і цёпла. Крыху падвялі акустыкі. Бывала, што і некалькі разоў папраўлялі голас у час адной песні.

Сёлетняя „Бардаўская восень" паказала, што Беларусь не ў змозе штогод выпускаць такія зоркі, якія паяўляліся на апошніх фестывалях (Віктар Шалкевіч, Кася Камоцкая, Алесь Камоцкі), але не было і слабых выканаўцаў. Як салісты з Беларусі, так і гурты з Беласточчыны мелі сваю публіку, якая горача дзякавала воплескамі.

Ці фестываль застанецца больш традыцыйным, ці паявіцца больш гуртоў з апрацаванай музыкай пабачым у будучыні.

**Аляксей Мароз**

# Мы прачыталі

*Załamanie się systemu komunistycznego było wstrząsem dla indywidualnej i zbiorczej tożsamości. W sytuacji gdy w odczuciu wielu kolektyw przestał zaspokajać zbiorową potrzebę bezpieczeństwa, nastąpił rozpad więzi, upadek autorytetów, dało o sobie znać zagubienie i niepewność. Toteż transformacja jest czasem kryzysu wszelkich tożsamości, gdyż ani poszczególni ludzie, ani społeczeństwo nie są przygotowane do pełnienia nowych ról, jakie narzuca im rzeczywistość. Nieufność budzi też zmiana identyfikacji niektórych polityków, którzy w jedną noc przeobrazili się w zagorzałych liberałów, konserwatystów, czy chrześcijańskich demokratów.*

*Gazeta Wyborcza, nr 244*

* * *

*Калі падзеі ў Беларусі будуць развівацца як цяпер, мы можам хутка апынуцца ў 1937 годзе.*

*Свабода, н-р 112*

* * *

*Nie znaleziono dowodów, by pogrom Żydów w Kielcach 1946 r. był ubecką prowokacją. Podłożem tragedii był niewątpliwie antysemityzm.*

*Kurier Poranny, nr 241*

* * *

*Правда о нынешней власти намного страшнее: Лукашенко создал чисто криминальное государство и сам возглавляет криминальные структуры. Правда, что народ с этим смирился. Это трусливая ложь. „Бессмертие сицилийской мафии ведь тоже состояло в том, что ее главарей действительно широко поддерживали запуганые, доведеные до нищеты люди.*

*Народная воля, н-р 179*

* * *

*Dzisiaj prywatyzuje się bank (PBK SA), wcześniej była Polska Miedź, wkrótce na licytację pójdzie Telekomunikacja Polska, LOT, Nafta Polska itp. — powinniśmy mieć jasność, że w każdym przypadku 15 proc. majątku tych firm oddajemy za darmo ich załogom. Przywilej spotyka ludzi, którzy w tych firmach znaleźli się często przez przypadek, ani też nie przyczynili się w jakiś szczególny sposób do ich rozwoju, gdyż w minionych latach inwestowano w nie głównie z budżetu, podatków, składek ZUS, zdzierając z klientów monopolowe ceny. Wypada żałować, że politycy zabrnęli w absurd ze strachu przed związkami zawodowymi i robotnikami z wielkich przedsiębiorstw, choć można było nie rozdawać akcji, a przeznaczyć je na budowę nowego systemu emerytalnego. Zabrakło jednak chociażby jednego odważnego, co by powiedział: nie rozdajemy prezentów.*

*Polityka, nr 42*

* * *

*В последнее время Александра Лукашенко преследует неприятность за неприятностью: не пустили в Россию, не позвали в Страсбург, генсек НАТО тоже не спешит ехать в Минск, мафия убивает друзей...*

*Народная воля, н-р 180*

* * *

*Ці вы любіце цёплую гарэлку? —* пытае газета

*Свабода, н-р 113*

Калі няма халоднай...

* * *

*Dlaczego pałka w Polsce zrobiła taką karierę? Jest poręczna, twarda, służy do uderzenia. W Polsce jednak piłkę zastąpiła ludzka głowa. W niewielu krajach kije zyskały sobie taką popularność jak u nas. Ich walory pierwsi docenili bandyci zajmujący się ściąganiem długów i wymuszaniem okupów. Kije stały się też ulubionym środkiem perswazji bramkarzy w nocnych klubach. Z czasem trafiły w ręce pseudokibiców, skinów i osławionych dresiarzy. Tylko w jednym z warszawskich sklepów od początku roku sprzedano 800 sztuk, a można je kupić w każdym sklepie sportowym, na bazarach, domach towarowych, a nawet stacjach benzynowych. Nie nadążam z zamówieniami — mówi sprzedawca. A że bandyckie. To nie moja sprawa. Najlepiej pały idą na wiosnę i lato. Dużo jest wtedy koncertów rockowych, imprez na świeżym powietrzu.*

*Polityka, nr 42*

* * *

*Ceny w agencjach towarzyskich ustabilizowały się, za godzinę klient płaci 150 zl, za pół godziny — w zależności od agencji 70—100 zł. Jest to cennik za „usługi zwykłe". Za pomysły „extra" były i ceny „extra". Z całej zarobionej kwoty panienki otrzymywały 40—50 proc. Prostytutka zarabia od 1500 do 2000 zl netto miesięcznie. Agencje w większości przypadków prowadziły kobiety — zwykle byłe prostytutki. Zdarzały się jednak małżeństwa. Przy czym nierzadko właścicielka sama świadczyła usługi erotyczne i to przy aprobacie męża.*

*W agencji pracują na ogół 18—19-letnie dziewczyny, choć zdarzają się i trzydziestolatki. Sporo w tym gronie studentek, zwłaszcza wydziału prawa. W jednej z agencji zdarzyło się, że erotyczne usługi świadczyła kobieta w siódmym miesiącu ciąży.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 243*

* * *

*Кому служит государственный чиновник? Благодаря Президенту он служит людям.*

*Народная газета, н-р 201*

# З мінулага тыдня

**Прэм'ер-міністр Владзімеж Цімашэвіч** падпісаў распараджэнне аб прызначэнні Беластоцкаму ваяводству 1,5 млн. зл. з бюджэтнага рэзерву. З гэтых грошай 600 тыс. зл. мае быць адведзены на рамонт Супрасльскага манастыра, на 400 тыс. зл. — на завяршэнне пабудовы спартыўнай залы ў Пачатковай школе ў Кляшчэлях і школьнага будынка ў Нараўцы, а 100 тыс. зл. — на рамонт праваслаўнага прыхадскога дома ў Белавежы, які з'яўляецца помнікам архітэктуры. Незадаволенасць гэтым рашэннем выказалі паслы ад АВС, якія назвалі яго „падзякай свайму электарату" і абяцалі, што новы ўрад „высветліць апошнія рашэнні ўступаючага ўрада".

**У палякаў** найбольшай сімпатыяй карыстаюцца амерыканцы (64%), італьянцы (63%) і французы (60%), — вынікае з апытання, праведзенага Цэнтрам даследавання грамадскай думкі. З найбольшай непрыхільнасцю палякі ставяцца да цыганоў (71%), румынаў (66%), украінцаў (60%), расіян (53%), беларусаў (46%), сербаў (44%), яўрэяў (41%) і балгараў (39%).

**Пробашч** парафіі св. Брыгіды ў Гданьску кс. **Генрык Янкоўскі** ў пропаведзі наконт фарміраванай Рады Міністраў сказаў, што „нельга акцэптаваць яўрэйскую меншасць у нашым урадзе", паколькі „гэтага баіцца народ". Гаворачы аб Уніі вольнасці пробашч заявіў, што „Унія невольнасці не мае права браць голас ад імені нашага народа", а лідэру гэтай партыі **Лешку Бальцаровічу** „трэба глядзець на рукі".

**Сакратар** Епіскапата Польшчы біскуп **Тадэўш Пяронэк**, каменціруючы пропаведзь кс. Янкоўскага, сказаў: „Уплятаецца яна ў ланцуг маніякальнага атакавання людзей за тое, за што атакаваць іх нельга". Біскуп падкрэсліў, што абавязкам святара з'яўляецца прапаведаванне евангельскай любові, а не рассейванне варожасці, абапёртай на абсурдных расісцкіх прадпасылках. Гданьскі архібіскуп **Тадэўш Гацлоўскі** палічыў гэту пропаведзь новай праявай некампетэнцыі пробашча і злоўжываннем становішчам святара ў палітычных мэтах.

**Саюз левых дэмакратаў** намерваецца падаць у Канстытуцыйны трыбунал справу крыжоў, павешаных у Сейме і Сенаце, — паведаміў генеральны сакратар Сацыял-дэмакартыі Рэспублікі Польшча **Ежы Шмайдзінскі**. „Тое, што здарылася ў Сейме глыбокай ночу (19 верасня паслы ад АВС павесілі ў Сейме крыж — рэд.), парушае не толькі добрыя абычаі, але і прынцыпы светапоглядна нейтральнай дзяржавы". Генсек СДРП напомніў, што новая канстытуцыя сцвярджае ясна, што Польшча мае быць нейтральнай па справах веры краінай.

**Беластоцкае энергетычнае прадпрыемства** вядзе акцыю пераносу бусліных гнёздаў з электрычных слупоў на спецыяльныя платформы. У нашым рэгіёне 40% гнёздаў гэтых птушак знаходзіцца на электрычных або тэлефонных слупах. Дбаючы пра тэхнічны стан электраліній энергетыкі пераносяць гнёзды на спецыяльныя платформы на тых самых слупах, але па-над правадамі. У найбліжэйшы час перанесены будуць 570 гнёздаў, а энергетыкам дапамогуць у гэтым дзеячы экалагічных арганізацый.

**Паліцыя** шукае злачынцу або злачынцаў, якія замардавалі старэйшае сужонства ў Бельску-Падляшскім. Мяркуецца, што забойства было ўчынена па грабежніцкіх матывах. З кватэры прапала каля дваццаці залатых пярсцёнкаў, а загінуўшая жанчына займалася гандлем залатымі ювелірнымі вырабамі.



# Весткі з Беларусі

**Антытэрарыстычная кампанія**

Выйшаў дэкрэт прэзідэнта Беларусі аб неадкладных мерах па барацьбе з тэрарызмам і іншымі асабліва небяспечнымі, гвалтоўнымі злачынствамі. Дэкрэт утрымлівае тлумачэнне шырагу паняццяў, у прыватнасці такой з'явы, як тэрарызм. Новы дэкрэт — чарговы крок аб'яўленай прэзідэнтам кампаніі барацьбы са злачыннасцю.

**Апальны герой**

Нядаўна прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка зняў з пасады дырэктара акцыянернага таварыства „Рассвет" на Магілёўшчыне Васіля Старавойтава. Гэты выпадак выклікаў шырокі рэзананс у грамадстве. Справа ў тым, што ветэран партызанскага руху, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы Васіль Старавойтаў больш трыццаці гадоў узначальваў самы вядомы ў Савецкім Саюзе калгас „Рассвет". Гэтая гаспадарка доўгі час лічылася ўзорнай, а апошнім часамператварылася ў акцыянернае таварыства. Але змена формы ўласнасці ніяк не паўплывала на Аляксандра Лукашэнку. Ён зняў Старавойтава з пасады без рашэння сходу акцыянераў за 3 гектары несабранага жыта.

**Рэпрэсіраваная абаронца правоў**

У вёсцы Мышкавічы Магілёўскай вобласці затрымана была старшыня беларускага Хельсінскага камітэта Тацццяна Процька. Прыбыла яна сюды на сустрэчу з адхіленым ад пасады Васілём Старавойтавым. Паводле міліцыі, Т. Процька „препятствовала сотрудникам правоохранительных органов, не пропуская их в дверь". Гутарка тут ідзе пра дзверы канторы калгаса, дзе вялася праверка дзейнасці АТ „Рассвет". Пасля некалькіх гадзін была яна вызвалена пад падпіску аб нявыездзе. На другі дзень суд у Менску забараніў Тацццяне Процька пакідаць межы Беларусі, прызнаў яе віноўнай у непадпарадкаванні міліцыі і вынес ёй спецыяльнае папярэджанне. Тацццяна Процька збіралася якраз паехаць у Жэневу, каб выступіць там у Камісіі па правах чалавека ААН з дакладам аб сітуацыі ў Беларусі.

**Папскае благаславенства**

Другое адраджэнне атрымаў нядаўна менскі кафедральны касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі. З 1951 г. будынкам гэтага касцёла карысталіся фізкультурнікі. У 1993 годзе быў ён вернуты каталікам, а ў кастрычніку г.г. нанава адкрыты і асвячаны. З гэтай нагоды ў Менск прыбылі прадстаўнікі Рымска-каталіцкай царквы з усіх краін СНД, а таксама спецыяльны прадстаўнік рымскага папы кардынал Эдмунд Шока. Высокіх свяшчэннаслужыцеляў прыняў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. У сваёй прамове ён адзначыў, што росквіт рэлігійнага жыцця ў Беларусі — гэта вынік дэмакратычных працэсаў у рэспубліцы. Кардынал Шока перадаў папскае прывітанне і благаславенне прэзідэнту Беларусі і беларускаму народу, а таксама ўручыў Аляксандру Лукашэнку памятны медаль, прысвечаны 19 году знаходжання папы Іаана Паўла II на прастоле Ватыкана. Кіраўнік Беларусі ў сваю чаргу падкрэсліў, што кардынал з'яўляецца „першым прадстаўніком Захаду, які ўсё ж такі падзякаваў беларускаму кіраўніцтву за пашанаванне правоў чалавека".

**Жаночая забастоўка**

На электронным прадпрыемстве „Інтэграл" у Менску ўспыхла забастоўка працуючых там жанчын. Пачалася яна неспадзявана, калі адна з работніц пачала галадоўку пасля таго, як захварэла ў халодным фабрычным цэху і не мела грошай на лякарства. Да галадаючай прыбыў міліцэйскі нарад, каб яе затрымаць. Да гэтага, аднак, не дапусцілі сяброўкі па рабоце. У выніку баставаць пачало дзвесце жанчын. Патрабуюць яны паляпшэння сацыяльных умоў на месцы работы і зраўнання заработнай платы жанчын з заробкамі мужчын.

**Фестываль польскай песні**

У Брэсце 26 кастрычніка адбыўся фестываль „Брэсцкая восень з польскай песняй". Удзельнікамі фестывалю былі самадзейныя фальклорныя калектывы Брэстчыны і асобныя выканаўцы, сярод якіх нямала прадстаўнікоў польскай дыяспары. У якасці гасцей на гэтае песеннае свята былі запрошаны кіраўнікі вобласці і горада, Бяльскападляшскай і Тарэспальскай мэрыяў, прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу, вядомыя польскія артысты.

# Новае ў Бельску

23 кастрычніка адкрылі ў Бельску-Падляшскім новае памяшканне страхавай суполкі „Polisa". Месціцца яна цяпер насупраць гарадской ратушы, у тым самым будынку, што і ПЗУ, толькі на паверх вышэй. Пры гэтай нагодзе была склікана і прэс-канферэнцыя, на якой давалася інфармацыя аб дзейнасці фірмы.

Суполка „Polisa" была завязана ў 1988 годзе і з'явілася першай прыватнай страхавай арганізацыяй. Цяпер яна — трэцяя па велічыні ў маштабе краіны, а яе ўдзел на страхавым рынку пастаянна расце: з 3.3 у 1995 годзе на 3.7 у мінулым (для параўнання: ПЗУ 60.5 і 65.3, „Варта" 17.6 і 14.0). Асабліва вялікі рост наступіў у беластоцкім аддзяленні, якое ахоплівае сваёй дзейнасцю тэрыторыю „старога" Беластоцкага ваяводства. Гадавы рост абаротаў суполкі перавышае тут 200% і цяпер займае яна 2-е месца на страхавым рынку з удзелам парадку 7-8%, а само беластоцкае аддзяленне з месца ў трэцяй дзесятцы перамясцілася на трэцяе месца ў краіне. У знак прызнання за гэткую дынаміку беластоцкаму адзяленню была даручана арганізацыя нарады кіраўніцтва фірмы, якая праводзілася ў Белавежы з 23 па 26 кастрычніка, на якой разглядаліся пытанні далейшай стратэгіі суполкі. „Polisa" будзе надалей займацца камунікацыйным страхаваннем з тае простае прычыны, што дарожны рух узрастае штогадова на 30%. Бярэцца пад увагу рэзкае павышэнне складчыны тым, якія прычыніліся да дарожных выпадкаў: з цяперашніх дадатковых 30% „ОС" на двух- або і на трохкратную. Праўленне суполкі ацэньвае, што вымененыя кампенсацыі складаюць цяпер каля 30—40% усіх і на эліміноўванне гэтай з'явы будзе пабольшаны націск. Плануецца дыферэнцыяцыю страхавай складчыны ў залежнасці ад мясцовасцей: там, дзе многа выпадкаў, там мае быць яна павышана, а дзе мала, там астанецца без змен. Уводзяцца таксама новыя формы страхавання: асобныя для бізнесу, і асобна для сем'яў; у апошнім выпадку на кватэрнай базе ўводзіцца дзевяць новых страхавых прадуктаў, а ў іх ліку м.інш. страхаванне надмагільных помнікаў.

Суполка „Polisa" з'яўляецца акцыянерам новых страхавых фірмаў: „Agropolisa" (37.5%) і „Polisa-Życie" (26%); акцыянерам апошняй (46%) з'яўляецца французская страхавая кампанія „CNP Assurances", у якой 42.5% удзелаў мае французскі ўрад.

„Polisa" таксама выходзіць і за мяжу. Першыя плацдармы стварае ў Беларусі. Супрацоўнічае яна з „Алвенай", тамашняй прыватнай страхавай суполкай, якая праявіла 11-кратны рост на працягу ўсяго трох гадоў. Пакуль што „Polisa" прапануе асноўныя камунікацыйныя страхаванні: „ОС", „АС", кошты лячэння, хваробы; у далейшым плане страхаваць *cargo*, а таксама экспансію ў Літву, Расею і Украіну.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# У гмінах перад зімою

**Дубічы-Царкоўныя**

У будынку ветэрынарнай службы здадзена ў карыстанне алейная кацельня. Абагравае яна таксама паштовае аддзяленне і шэсць кватэр, у якіх жывуць патрэбныя гміне спецыялісты.

Войт Анатоль Паўлоўскі лічыць, што замена вугальнага ацяплення, якое моцна забруджвае паветра, на газавае або алейнае вельмі важнае для распаложанай на ўскраіне Белавежскай пушчы гміны. Чыстыя лес і паветра ды экалагічная сельская гаспадарка, гэта тое, што можа выратаваць Дубіцкую гміну ад заняпаду і палепшыць умовы жыцця мясцовым людзям.

* * *

У гміне праклалі два кіламетры асфальту: 1200 метраў ад Дубіч у бок Вэрстока і 800 метраў ад вёскі Чахі-Арлянскія да шашы з Дубіч на Войнаўку і Палічну. Гэтыя дарогі ў кампетэнцыі ваяводы і рамантаваць іх павінна Ваяводская ўправа ў Беластоку. Але Гмінная рада ў Дубічах-Царкоўных палічыла, што іх мадэрнізацыя неабходная жыхарам і вырашыла правесці патрэбныя працы самастойна, не чакаючы ласкі ваяводы.

Шкада, што не хапіла грошай на ўсю дарогу з Дубіч у Вэрсток, а толькі на яе фрагмент. А можа ваявода знойдзе на яе крыху граша ў будучым годзе?

**Нарва**

Вядуцца работы па мадэрнізацыі вуліц у трох вёсках: Крыўцы, Кутавой і Вялікіх Тыневічах ды вуліцы Млыновай у самой Нарве. Спачатку навазілі жвіру, засыпалі выбоіны, усё выраўнялі. А пасля, на так падрыхтаваны падклад, сталі рассцілаць асфальт. Спадзяюцца справіцца з гэтым да сапраўдных маразоў, як і з вадаправодам у вёсках Навіны і Кавяла.

У Нарве таксама клапоцяцца пра чысціню асяроддзя — будуюць новую звалку смецця. Але будзе яна здадзена ў карыстанне ўжо вясною. **(ак)**

# Залатыя ручкі

... патрэбны ў кожнай вёсцы. Хоць яны пусцеюць, астаюцца пакінутыя хаты, але ўсё ж жывуць тут людзі, і не толькі старэчы. А, вядома, калі жывеш, то і карыстаешся ўсім абсталяваннем дома, а яно, так як і чалавек, старэе. Калісьці шмат было майстроў, якія „ў адным пальцы" мелі спор і да сталяркі, і да пячной справы, і да муляркі. На ўвесь год хапала ім работы, а асабліва на зіму. Такім майстрам быў, напрыклад, Іван Кастанчук з Баравых, што ў Нараўчанскай гміне. Чаго ён не рабіў! І печы клаў, і мураваць умеў, і дом скласці патрапіў, і разбіраўся ў земляробстве (аграном прыязджаў распытваць, калі пара сеяць грэчку; вёў доследныя палеткі і ваяваў з каларадскім жукам). Але сёння і сярод маладых трапляюцца залатыя рукі. Шкада, што часта замест добра аддзячыць іхнім уласнікам, плацяць ім гарэлкай.

Імя добрага майстра вядомае ў ваколіцы. Хапіла сказаць у Нараўцы пані Аліне з Міклашэва, што яе печ збунтавалася, хутка паінфармавалі, дзе шукаць ратунку. Пан Вальдак корпаўся пры кафлянай сцяноўцы добрых пару гадзін, разведаў пячное нутро і ўсе трубы, прачысціў, паклеіў, замазаў — і ўсё „цацы". Печ як звон, як новая. Цягне як цмок, грэе, дыму не выпускае.

— Працаваў я, быў беспрацоўным, а цяпер страціў „куранёўку". А залатыя рукі мяне і маю сям'ю ратуюць ад галоднай смерці. Ано мяне не рэкламуйце, бо шчэ зараз падатнікі пагоняць! А такая работа — раз яна ёсць, раз — няма. Не кожны ж дзень у гміне адна печ валіцца! Тым больш, што людзі зацягваюць цэнтральнае ацяпленне. Але і на такіх штуках трэба знацца, ісці з прагрэсам.

Майстар Вальдак, задаволены, глядзіць на сваю работу і выцірае папэцканыя глінай моцныя далоні.

**(лук)**



*Фота Міры Лукшы*

# Моц сялянскага слова

На калёніі ў Пашкоўшчыне жыве **Андрэй Грайко** — 72-гадовы селянін-пенсіянер, які ўсе свае справы афармляў пры дапамозе рыфмаванага слова. Прашэнні ў дзяржаўныя ўстановы пісаў ён вершам, нават у цэнтральныя органы. А ўсё пачалося з электрыфікацыі, а дакладней кажучы з яе адсутнасці.

— Мы дваццаць гадоў жылі без электрычнага святла, — кажа Андрэй Грайко. — Па навакольных вёсках даволі рана правялі электрычнасць, а ў нас толькі ў 1977 годзе.

Калі ў 1957 г. на гэтай тэрыторыі закончылася электрыфікацыя вёсак і без электраэнергіі пакінулі аддаленую на 1 км ад вёскі калёнію, Андрэй Грайко напісаў просьбу Уладзіславу Гамулку. Цэнтральны Камітэт ПАРП, відаць, праігнараваў справу, бо адказ адтуль не паступіў. Цяжка было жыць пры газавай лямпе. Аднойчы, калі паехаў ён роварам у Орлю за газай і таблеткамі ад галаўнога болю, купіў сабе аловак і запісную кніжачку, у якую стаў заносіць свае рыфмаваныя думкі. Калі сына прызвалі ў войска і настала жніўная пара, напісаў ён рыфмаванае прашэнне камандзіру часці. Прасіў ён адпусціць сына на некалькі дзён дапамагчы ўбраць ураджай. У заканчэнні селянін напісаў:

*A dla Ojczyzny Matki też nie będzie żalu,*
*Gdy na żniwach u ojca syn będzie*
*przy pracy w polu.*
*Jeszcze raz Dowódcy będę szczerze prosić,*
*Abym mógł ja z synem swoje płony skosić.*

— Калі я з гэтай заяўкай зайшоў ва Управу гміны з просьбай падтрымаць мяне і паставіць пячатку, — расказвае Андрэй Грайко, — сакратар здзівіўся: „У войска вершык?!!" і не падпісаў. Дапамог мне тады пакойны Ян Рута — тады рэферэнт па вайсковых справах. Адправіў я незвычайнае прашэнне ў вайсковую часць у Кашалінскае ваяводства і праз нейкі час з'явіўся сын з усмешкай на твары. Падбадзёраны гэтым поспехам стаў я складаць пры газоўцы прашэнне пра электрыфікацыю нашай калёніі. Выслаў я яго ў ЦК партыі, Эдварду Герку. Пасля двух тыдняў прыйшоў адказ, што справа перададзена на разгляд у Беласток і адтуль трэба чакаць вырашэння. Пасля чарговых двух тыдняў з Аддзела сельскай гаспадаркі і лесаводства Ваяводскай управы з Беластока прыйшло пісьмо, у якім абяцалі неадкладна правесці электрыфікацыю. І калі толькі сышоў снег, з'явілася ў нас брыгада электраманцёраў. Прыйшлі яны да мяне, прывіталіся і кажуць: „Panie Grajko, pana pismo po wszystkich pokojach nosili i wszyscy czytali..." А ў канцы гэтага прашэння пісаў я так:

*I pół litra bym postawił,*
*szczerze bym ugościł,*
*Kiełbasy palcem napchanej*
*zakąsić bym prosił.*
*Gdyby wiedzieć gdzie i komu,*
*to i prezencik damy,*
*Bo my światło elektryczne mieć*
*bardzo pragniemy.*

Стрымаў я дадзенае слова. Была і свойская каўбаса і другія прысмакі.



Андрэй Грайко складае рыфмаванкі і на іншыя тэмы, якія хвалююць яго асабіста і вясковае асяроддзе. Піша пра сваю калёнію, пра Пашкоўшчыну і Тапчыкалы, пра іх жыхароў, пра дарогі. Свае дасціпныя вершыкі ведае на памяць, дэкламуе іх на народных фэстах, сходах, сустрэчах з сялянамі, напрыклад, на пункце скупкі. Людзі слухаюць, смяюцца, ківаюць галовамі... Жыццё няспынна нясе новыя праблемы, з вырашэннем якіх улады не спяшаюцца. Спадар Грайко нядаўна быў у Орлі і ў кіёску купіў чарговую запісную кніжку.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

 

# Сканала, не дачакаўшы юбілею

Ужо хіба адзін толькі Уладзімір Сідарук заяўляе публічна аб сваёй незадаволенасці ліквідацыяй звыш тры гады таму чыгуначнага шляху Бельск-Падляшскі — Белавежа. Людзі, якія карысталіся гэтым відам транспарту, мелі даволі многа часу, каб канчаткова перастаць верыць у тое, што чыгуначныя ўлады адчуюць дакор сумлення і аднавяць рух цягнікоў на спамянутым шляху. Няцэлы год таму рэдактар часопіса „Białowieżanin", Анджэй Антчак, прабаваў яшчэ павярнуць справу ў карысны бок для пасажыраў, збіраючы подпісы пад петыцыяй, накіраванай найвышэйшым органам дзяржавы. Праўда, назбіраў ён тых подпісаў звыш тысячы, але адрасаты петыцыі нават не адгукнуліся на патрабаванні сваіх грамадзян. Чыгуначныя ўлады ў сваю чаргу хуценька перадалі ў чэрвені г.г. дзве станцыі ПКП у Белавежы ў арэнду Канвенту польска-беларускага пагаднення. Той апошні мае іх замяніць у культурна-адпачынковыя асяродкі. Гэты крок чыгуначных улад канчаткова даказвае, што чыгуначная лінія Бельск-Падляшскі — Белавежа памерла назаўсёды. Дзіўна толькі, а і парадаксальна заадно, што яе даканалі самі чыгуначнікі. Гэта выглядае так, быццам маці забіла сваё дзіцё. А тут яшчэ забойца строіцца ў арэол дбаючых пра эканоміку! Толькі ці хто чуў, што чыгунка ў Польшчы рэнтабельная? Чыгуначная вярхушка здаўна трубіць, што прадпрыемства ПКП не дае прыбытку. Але чамусьці гэтага малоха цалкам не ліквідуюць. А прыдалося б! Калі эканоміць, то без выключэнняў! Навошта нам неэканомная чыгунка?

Пішу гэтыя словы з горыччу ў сэрцы! У бягучым годзе выпадае сотая гадавіна чыгункі ў Белавежы. Магло б быць гучнае святкаванне! А выйшла так, што замест святкаванняў, трэба спраўляць паніхіду.

Чыгунку з Бельска-Падляшскага ў напрамку Белавежы пачалі пракладваць у 1894 г. У тым жа годзе дацягнулі яе толькі да Гайнаўкі. Цар Аляксандр III, які ў той час выбраўся ў Белавежу на паляванне, дарогу з Гайнаўкі адбыў конным экіпажам. З увагі на тое, што наступны цар, Мікалай II, у Белавежу паляваць не спяшаўся, працы пры будове чыгункі прыпыніліся на пару гадоў. Рушылі яны поўным ходам у маі 1897 г., калі стала вядома, што цар напрыканцы лета наведае белавежскія нетры. Цар і яго госці гэтак і сталі першымі пасажырамі, якія 9 верасня 1897 г. (паводле старога стылю — 27 жніўня) прыбылі цягнікам у Белавежу.

Вакзалы ў Гайнаўцы і Белавежы выглядалі вялікапышна. У Белавежы збудавалі іх аж два. Адзін для звычайных пасажыраў (потым — Белавежа-Таварная), другі для царскіх прыездаў (потым — Белавежа-Палац). Усімі працамі пры пабудове г.зв. белавежскага адгалінавання кіраваў інж. Яўхім Арэхаў.

Асабліва цікавым паказваўся ўсім вакзал для царскіх прыездаў. Белавежцы дагэтуль называюць Белавежу-Палац царскай рампай. Калі цар прыязджаў у Белавежу, спецыяльна сцягнутыя з Варшавы агароднікі ўпрыгожвалі яе кветкамі. З іх таксама складвалі прывітальныя надпісы ці герб Раманавых. Гэтая традыцыя працягвалася ў час г.зв. рэпрэзэнтацыйных паляванняў, наладжваных у трыццатыя гады прэзідэнтам РП Ігнацым Масціцкім.

У 1905—1906 гадах Гайнаўку „перарэзала" другая чыгуначная лінія, якая вяла з Седльцаў у Балагое (на лініі Санкт-Пецярбург — Масква). Тады і пабудавалі тут новы, мураваны вакзал і шмат прывакзальных аб'ектаў. На жаль, вакзал гэты ў I сусветную вайну быў моцна пашкоджаны! Адбудавалі яго ў 1919—1920 гадах. Царская рампа ў Белавежы асталася незабуранай, але невядома па якіх прычынах яе разабралі ў другой палове дваццатых гадоў.

У міжваенны перыяд у Белавежу спачатку курсіравалі два цягнікі ў суткі, потым чатыры. У летні перыяд Міністэрства камунікацыі пускала ў ход (у суботы і перадсвяточныя дні) спецыяльны цягнік з Варшавы. Чыгунка менавіта адыграла вялікую ролю ў развіцці ў гэты час белавежскага турызму, таму што большасць экскурсій, асабліва школьнай моладзі, дабіралася ў Белавежу цягнікамі. Гэтак было і ў пасляваенны перыяд, дзесьці да канца шасцідзесятых гадоў.

У 1941 г. Савецкая Армія пачала будаваць чыгуначную лінію, якая мела спалучаць Пружану з Белавежай. На жаль, працы пры пабудове гэтага шляху перарвала нападзенне немцаў на Савецкі Саюз. Падчас II сусветнай вайны чыгуначнае палатно на лініі Гайнаўка — Белавежа неаднойчы падвяргалася дыверсійнай дзейнасці савецкіх партызан. У палове ліпеня 1944 г. немцы адступаючы знішчылі белавежскую чыгунку. Два гады пазней яе адбудавалі і 23 чэрвеня 1946 г. у Белавежу ізноў пачалі ездзіць цягнікі. Горшая сітуацыя склалася ў Гайнаўцы. Там немцы знішчылі вакзальны будынак і больш як сорак гадоў пасажыры былі вымушаны карыстацца звычайным баракам. Новы вакзал быў пабудаваны толькі ў васьмідзесятыя гады. Афіцыйна адчынілі яго 9 верасня 1986 г.

На дзесяць гадоў раней збудаваны быў новы вакзал у Белавежы, на месцы царскай рампы. Урачыстае адкрыццё адбылося 3 сакавіка 1976 г. А 10 лістапада 1984 г. здадзены быў у карыстанне прыпынак у Грудках. Здавалася, радасці пасажыраў не будзе канца. Аднак канец набліжаўся непахісна. Канец самой лініі! Спачатку падоўжыўся час пераезду цягніка з Гайнаўкі ў Белавежу з 35 мінут да адной гадзіны. Чыгуначнікі тлумачылі, што нерамантаваная паўвека лінія не вытрымоўвае вялікай хуткасці паяздоў. У той час з Гайнаўкі ў Белавежу пачалі курсіраваць аўтобусы ПКС. Чыгунка з дня на дзень траціла кліентаў.

У 1987 г. Белавежа мела яшчэ 7 непасрэдных спалучэнняў з Гайнаўкай, 3 — з Бельскам-Падляшскім і 2 — з Беластокам. У летні перыяд, у суботы і нядзелі, курсіраваў скоры цягнік з Варшавы-Заходняй.

У студзені 1991 г. нармальныя саставы паяздоў замяніў г.зв. рэйкавы аўтобус. Курсіраваў ён да 29 мая 1994 г. ПКП спыніў рух на цэлай лініі Бельск-Падляшскі — Белавежа. Увеў затое аўтобусную камунікацыю ў рамках абслугі ПКП, якая недастаткова выконвае свае заданні, пра што падрабязна пісаў нядаўна на старонках „Нівы" Уладзімір Сідарук.

Вось і ўся гісторыя чыгункі ў Белавежы, якая паспяхова выконвала сваю ролю амаль сто гадоў. І выконвала б надалей, каб не крывадушнасць чыгуначнай вярхушкі. А і хіба з прычыны няўмелага адстойвання сваіх спраў мясцовым насельніцтвам. Яму трэба было б крыху падвучыцца гэтаму ў гданьскіх суднабудаўнікоў. Дык дарма спадзявацца, што гэтак станецца. У нас людзі „спецыялізуюцца" ў чым іншым — у грызні паміж сабой. І эфект бачны, як на далоні!

Лёгкага табе спачыну, белавежская чыгунка!

**Пётр Байко**

# Заходняя і ўсходняя Беларусь

У днях 22-23 кастрычніка г.г. у Варшаве адбылася канферэнцыя, арганізаваная Інстытутам гісторыі Польскай акадэміі навук і прысвечаная гісторыі Беларусі ў міжваенны перыяд. З Мінска прыехала 4 прафесараў, якія даклады чыталі і прымалі ўдзел у дыскусіі на беларускай мове. Канферэнцыя праводзілася без перакладчыкаў, але ніхто не заяўляў, што чагосьці не разумее па моўных прычынах.

У галіне даследавання гісторыі Беларусі сярод польскіх гісторыкаў у апошніх гадах не з'явілася нічога асаблівага, што не было б ужо раней сказана. Паўтараліся старыя тэзісы і стэрэатыпы. З другога боку, над беларускай гістарыяграфіяй вісіць цень савецкай ідэалогіі і расейскіх дзяржаўных інтарэсаў. Традыцыйна пакорлівы беларускі стыль дыскусіі не дазваляе давесці да ведама іншых народаў наш нацыянальны пункт гледжання на мінуўшчыну.

Беларуская дзяржаўнасць у XX стагоддзі — паводле гісторыкаў з Мінска — нарадзілася ў выглядзе стваранай камуністамі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Створаная Актам 25 сакавіка, як нацыянальнае прадстаўніцтва, Беларуская Народная Рэспубліка для савецкіх і польскіх гісторыкаў была нейкім малаважным інцыдэнтам. Толькі прафесар Аляксей Літвін з Мінска ў хвіліне шчырасці сказаў, што саветы ў адносінах да Беларусі вялі заўсёды расейскую імперыяльную палітыку, пастаянна і ўсялякімі метадамі знішчаючы беларускую эліту, якая перахоўвала нацыянальную ідэю. Нават калі яны арганізавалі супрацьпольскі нацыянальны рух у II Рэчы Паспалітай, рабілі гэта дзеля яго кампраметацыі і знішчэння польскімі рукамі. Грамаду арганізавалі не таму, каб пашкодзіць Польшчы ці дапамагчы беларусам, але каб маральна і фізічна знішчыць нацыянальных лідэраў.

Шмат эмоцый выклікала вызначэнне юрыдычнага стану Беларусі пасля Рыжскага пакту 1921 года. Акупацыя Беларускай Народнай Рэспублікі, як гэты стан бачылі беларускія патрыёты, аказалася тэрмінам зусім неўспрымальным ні палякам, ні мінскім гісторыкам. Палякі даказвалі, што тыя беларусы, якія апынуліся на польскім баку рыжскай мяжы, не пацярпелі ў выніку сталінскіх рэпрэсій. Паводле такіх вядомых гісторыкаў, як Анджэй Айнэнкель, Пётр Ласоўскі, беларусы гэтыя жылі ў цывілізаванай, дэмакратычнай, еўрапейскай краіне. У тым самым часе — падкрэслівалі яны — іх суродзічы на ўсходзе жылі ў „імперыі зла". Зразумела, пра прыкметы тадышняй цывілізацыі вучоныя прафесары не пыталі сялян з ваколіц Гарадка, Баранавіч ці Пінска.

Аргумент, што з беларускага пункту гледжання БССР была толькі асаблівай формай расейскай акупацыі, аказаўся неўспрымальным для гасцей з Мінска. Так, як у 1921 годзе ў пэўны момант у адносінах да Беларусі сталі выходнымі палітычныя інтарэсы палякаў і расейцаў, так цяпер ідзе згодная апраўданне рыжскага дагавору паводле схемы: пастановы пакта былі крыўдныя беларусам, але не было іншага, лепшага выхаду. Цынізм гэта ці інтэлектуальнае шаленства?

**Яўген Міранович**

# Заўважылі толькі апазіцыянераў

*Адгалоскі*

Прачытаўшы ў 40 н-ры „Нівы" выказванні Алены Анішэўскай і Канстанціна Масальскага наконт II З'езду беларусаў свету (стар. 8-9), заўважыў я, што хаця яны папракаюць іншых аўтараў у аднабаковым асвятленні гэтай падзеі, самі таксама глядзелі на яе „адным вокам" і слухалі „адным вухам". Канстанцін Масальскі піша, што Аляксандр Лукашэнка многа паклаў намаганняў, каб „сарганізаваць вось гэты з'езд для дэлегатаў і гасцей з замежжа", чаго не ўшанавалі нядзячныя экстрэмісты і клакёры. Шкада, што аўтары дапісаў не ўлічваюць гэтага, што недэмакратычныя лукашэнкаўскія рэферэндумы давялі ў Беларусі да знішчэння парасткаў нацыянальнага адраджэння, што знішчаюцца беларуская мова, культура і школьніцтва, што адменены гістарычныя сімвалы, распушчаны законна абраны парламент, падвяргаюцца рэпрэсіям апазіцыйныя дзеячы, сродкі масавай інфармацыі і ўчыняюцца іншыя парушэнні правоў чалавека. II З'езд арганізавала „Бацькаўшчына", аб чым гаварыла Ганна Сурмач. Прэзідэнцкая каманда старалася перашкодзіць арганізатарам мерапрыемства і выкарыстаць трыбуну для сваіх мэтаў. Непрыязная рэакцыя на выступленне прадстаўніка прэзідэнцкай каманды, крыкі на зале — гэта рэакцыя на бязвыхадную сітуацыю. Пра гэтае гаварылі з трыбуны з'езду Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Станіслаў Шушкевіч, украінскі пісьменнік Іван Драч.

Алена Анішэўская, Ніна Цыванюк і Канстанцін Масальскі абураюцца рэакцыяй супроць выступлення Барыса Цімошніка з Харкава, які да трыбуны надышоў на кастылях. А што ён разумнага сказаў? Ці ж заклікание дыяспары аб'ядноўвацца вакол Лукашэнкі дзеля стварэння новай дзяржавы — Славянскага Саюза — гэта не палітычная правакацыя? Ад гэтага выступлення вострa адмежавалася ўкраінская дэлегацыя.

Спадар Масальскі папракае арганізатараў, што не рэагавалі, калі зала пратэставала супраць прамоў гасцей і дэлегатаў з трыбуны на рускай мове. Не абвяргаючы значэння расейскай навукі і культуры трэба памятаць, што Беларусь больш за 200 гадоў была знявolена царскай Расеяй, затым 70 гадоў — савецкай і ўвесь гэты час праводзілася на яе тэрыторыі каланізацыйная палітыка. II З'езд арганізаваны быў для беларусаў свету і не было гэта нейкае міжнацыянальнае пасяджэнне. Для прыкладу хачу прыпомніць, як на чыстай беларускай мове выступалі Валянцін Грыцкевіч з Санкт-Пецярбурга ці Алесь Каўка з Масквы. Яны не забылі роднай мовы, хаця жывуць сярод расейцаў.

І на канец яшчэ адна заўвага, адносна прысутнасці на З'ездзе прадстаўнікоў рэлігійных канфесій. Чаму быў уніяцкі святар і татарскі мула, а не было праваслаўнага бацюшкі і каталіцкага ксяндза трэба было б папытацца ў арганізатараў. Не разумею таксама, чаму спадар Масальскі абураецца, што Міністэрства культуры надрукуе уніятам беларускамоўныя малітоўныя кнігі. Відаць, праваслаўныя іерархі з такой просьбай не звярталіся. Мяркую гэтак па маіх асабістых назіраннях ад удзелу ў багаслужбе ў нядзелю 27 кастрычніка. Калі пабачыў я інтэр'ер кафедральнага сабора, мне, грэшнаму, здалося, што пераступіў я парог у рай. Да сумнай рэчаіснасці гэтага свету вярнулі мяне словы святара, які заклікаў маліцца за „власти и воинство" ды за „Русскую православную церковь". Па гэтай прычыне можна зразумець чаму Ніну Цыванюк назвалі ў Менску маскалькай. У Беларусі сапраўды дзейнічае Расейская праваслаўная царква, а няма беларускай. Святары заклікаюць маліцца за Рускую царкву, але чаму ж не за сваю. Ці ж гэта не парадокс?

**Юстын Пракаповіч**



 

# Максімюк у клубе

— Маю надзею, што я не занудзіў насмерць сваіх маладых слухачоў і пераканаў, што ў беларускай літаратуры апрача Куляшова ёсць яшчэ іншыя вартасныя пісьменнікі, — сказаў на заканчэнне сустрэчы Ян Максімюк, упісваючы свае назіранні ў Кнігу водзываў школы.

Актыўнасць маладых людзей можа праяўляцца на розныя спосабы. Часта цікавіць іх тое, што цяжкадаступнае, а нудным робіцца тое, што абавязковае. Арганізаваная дзейнасць вучняў у традыцыйнай форме становіцца перажыткам. Тым больш дзейнасць вакол беларускіх справаў патрабуе арыгінальнасці і разнастайнасці. Вучні II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы, якія дзейнічаюць у Клубе польска-беларускіх справаў, стараюцца зацікавіць сваіх сяброў і сябровак беларускай гісторыяй, літаратурай і этнаграфіяй у далёкі ад традыцыйнай школы спосаб.

— На сустрэчы не прыходзіць многа вучняў, хаця многа асоб дапытваецца пра спатканні, — гаворыць Тамаш Саевіч — суарганізатар працы клуба. — Не ўсім падыходзіць час, у які адбываюцца дыскусіі. Некаторыя вымушаны езаць дахаты. Вучняў могуць зацікавіць іншыя формы дзейнасці, напрыклад такія выезды, як арганізаваны нядаўна ў Бельск-Падляшскі, ці вандроўкі па ваколіцы.

16 кастрычніка ў Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы, пры дапамозе Яўгена Вапы — апекуна клуба, было сарганізавана спатканне з Янам Максімюком — беларускім публіцыстам і перакладчыкам. Госць коратка пазнаёміў маладых слухачоў са сваім школьным і студэнцкім жыццём, якое заўсёды цікавіць вучняў. Звярнуў увагу на значэнне беларускай мовы ў яго прафесійнай працы і выбары дарогі жыцця.

— Веданне беларускай мовы заўсёды ўзбагачае чалавека, робіць яго больш вартасным і вылучае сярод тых, якія ведаюць толькі польскую мову, — сказаў публіцыст. — Вывучаць беларускую літаратурную мову напэўна намнога лягчэй тым, якія ведаюць гаворку. Іншыя мусяць прысесці і папрацаваць, як з замежнай мовай, але напэўна варта.

Перакладчык пераконваў маладых слухачоў, што чалавек ніколі не ведае дасканала сваёй роднай мовы і павінен яе дасканаліць.

— У мяне дома шмат слоўнікаў, з якімі я вымушаны быў працаваць перад тым, як я ўзяўся перакладаць „Уліса” Джэймса Джойса на беларускую мову, — заявіў Ян Максімюк. — Аўтар гэтай кніжкі карыстаўся прыблізна 25-цццю тысячамі слоў, да якіх я мусіў падабраць эквіваленты ў беларускай мове.

На жаль, як сярод вучняў, так і настаўнікаў беларуская версія была маламвядомая і дыскусія на тэму „Уліса” доўга не зацягнулася. Вядомым стала, што госць так абложаны рознай працай, што не зможа ў хуткім часе дакончыць пераклад другой часткі кніжкі Джэймса Джойса.


Найбольш актыўныя ўдзельнікі Клуба.

— Цяпер працую над польска-беларускім слоўнікам, падрыхтаваўшы ўжо каля 25-ці тысяч слоў, — паведаміў размоўца. — Праца зацягваецца таму, што хачу падрыхтаваць і граматычны бок змешчаных слоў, апрацоўваючы спражэнні і скланенні.

Вучні і настаўнікі зацікаўлены былі тым, як хутка змогуць пабачыць слоўнік, бо слоўнік Міхала Бірылы не надта актуальны, а новы слоўнік Тэрэсы Ясінькай і Альберта Барташэвіча змяшчае малую колькасць слоў. Даўжэй працягвалася дыскусія наконт сучаснай беларускай літаратуры, якой крытыкам і знатаком з'яўляецца Ян Максімюк. Звярнуў ён увагу на прэстыжны літаратурны семінар „Бязмежжа”, які праводзіцца ў Гайнаўцы з удзелам сучасных пісьменнікаў з Беларусі (у гэтым годзе былі, між іншымі, Адам Глёбус і Ігар Бабкоў). Размова затрымалася на сучаснай літаратуры, якую можна было б выкарыстаць на ўроках беларускай мовы. Была згода, што шмат літаратуры ў школьных праграмах з'яўляецца ўстарэлай і малазразумелай для вучняў.

— Ці творы Аркадзя Куляшова сапраўды ўжо не падыходзяць да аналізу ў школе? — пытанне ішло ад настаўніка беларускай мовы.

Калі дыскусія тычылася сучасных твораў, гаварыў перад усім Ян Максімюк. Звярнуў ён увагу на цікавую прозу і вершы Ігара Бабкова, Адама Глёбуса, затрымаўся пры рыфмаваных вершах Славаміра Адамовіча. Не адракаўся таксама ад лепшай прозы Васіля Быкава ці цікавейшых вершаў Максіма Танка. Настаўнікі з палёгкай прынялі паведамленне, што рыхтуецца „Анталогія сучаснай беларускай прозы і паэзіі”, якая можа стаць неабходным дапаможнікам у сярэдніх школах, паколькі ў Гайнаўцы ці Бельску маюцца толькі лічаныя экземпляры з сучаснымі творамі. Гутарка не абмінула таксама і семінара „Каралеўства Беларусь”, які адбыўся ў Польшчы і тычыўся беларускага мастацтва, прозы і паэзіі. Пад рэдакцыяй Яна Максімюка выйшла кніжка, у якой запрэзентаваны ўдзельнікі семінара. Дыскусія была цікавай, хаця закранутыя тэмы часта былі малавядомымі многім вучням.

Шкада, што ў нашым ліцэі малы доступ да прагрэсіўнай беларускай прэсы і навінак з беларускай літаратуры і культурнага жыцця Беласточчыны, — сказаў Тамаш Саевіч — актыўны ўдзельнік спатканняў у школе. — Напрыклад я не ведаў ні пра семінар „Каралеўства Беларусь”, ні пра побыт Разанава на Беласточчыне, а гэта ж цікавыя падзеі.

Спатканне сарганізаванае Клубам 15/15 (гэта прапанаванае названне Клуба, якое не вельмі прынялося, — паведаміў адзін вучань) было цікавым не толькі для настаўнікаў. Ян Максімюк займальна і вобразна знаёміў слухачоў са сваёй працай і цікавейшымі апошнімі праявамі культурнага жыцця Беласточчыны.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Беласток Петрука

21 кастрычніка г.г. Беластоцкі асяродак культуры супольна з Ваяводскай публічнай бібліятэкай адкрылі выстаўку малюнкаў Уладзіслава Петрука пад загалоўкам „Архітэктура Беласточчыны”. Вернісаж гэтай выстаўкі прайшоў у кавярні „Фама” — выстаўка будзе працягвацца да 10 лістапада.

Збор малюнкаў, на якіх прадстаўляецца архітэктура Беласточчыны, — сказаў іхні аўтар, — узнікаў на працягу ягонай шасцігадовай працы ў нашай рэдакцыі. Гэта „Ніва” — адзначыў У. Петрук, — накінула мне той рэжым працы, у выніку якога з тыдня ў тыдзень разрасталася серыя „Свойскія малюнкі”. Гэты цыкл працягваецца да сённяшняга дня.


*Царква ў Фастах.*

Набор працаў У. Петрука, які тэматычна адносіцца да архітэктуры Беласточчыны, купіла ў яго Ваяводская публічная бібліятэка ды памясціла ў сваім спецыяльным фондзе. На выстаўку ў кавярні „Фама” былі выбраны толькі тыя малюнкі, якія прадстаўлялі Беласток. На большасці з іх выяўлены завулкі старога Беластока, якія паволі знікаюць з гарадскога краявіду пад напорам хутка вырастаючых урбаністычных адзнак маладога капіталізму. Артыст, як здаецца, знаходзіць асаблівае задавальненне ў дэталёвай рэгістрацыі прыкмет гэтага мінулага часу. Часу, які ўсё-такі застанецца ў чалавечай памяці — дзякуючы, хаця б, малюнкам У. Петрука.

**(ам)**

# У сеці лёсу

Франц Кафка пісаў у „Лістах Мілене”: „Найпрыгажэй співаюць тыя, хто апынуўся на дне пекла. Здаецца тады, што чуем спеў анёлаў”.

Уладзімір Гайдук знаходзіць у гэтых словах адбітак сваёй долі.

*Мой лёс —*
*Белы мой анёл.*
*А ночы —*
*Чорная смерць*
*Штораз часцей з гадамі,*
*Як цень, за мной ідзе.*

Хутар Полымя — на ўскраіне Белавежскай пушчы, непадалёк цяперашняга Семяноўскага вадасховішча. Прырода там разнаколерная, буйная. Жыццё — аднастайнае і цяжкае. У такім месцы кормяць не кніжкі, не папера і ручка, а чатыры каровы. Чарната з рук пасля капання бульбы не злазіць тыднямі.

Адзінокае жыццё абяртаецца кашмарам:

*У чатырох сценах*
*Краявід нязносны:*
*Хаос і пустэча.*
*Арахна выткала сець лёсу...*

... з якой ніхто не выпутаецца, бо *нікому нельга свайго лёсу перайначыць* (Я.Чыквін). Можна толькі шкадаваць нявыкарыстаных шанцаў застацца ў горадзе, мець чыстую кашулю і працу, лёгка жыць. Можна забіцца думкамі аб страчаных магчымасцях збудаваць сям'ю, звіць цёплае, утульнае гняздо. Толькі тады цяжкае самотнае жыццё стане зусім невыносным.

У вершах Уладзіміра Гайдука знаходзім і смутак прамінання, і жаль па нязбытых снах, марах, каханні. Але ёсць і разуменне феномену сваёй творчасці:

*Не пражыў, дык не напішаш!*
*Я гэта ўжо спазнаў даўно.*
*Сваёй дарогі не знайшоў*
*Той, хто ніколі не блудзіў.*

„Пах аернага хлеба”* — гэта ўсяго трэці зборнік паэта, які даўно ўжо размяняў шосты дзесятак. Селяніна, які добра ведае, што няма чагосьці такога як „аерны хлеб”, які той хлеб штодзённы, жытні, сам вырошчвае. І неаднаразова апеў у вершах. Для Уладзіміра Гайдука пах аеру, на лісцях якога пеклі хлеб у яго дзяцінстве, падобны на Багдановічаву валошку ў жыцце. І аднаго, і другога не наясіся. Але без прыгожага, без памяці аб дарагім — жыць немагчыма.

Уладзімір Гайдук належыць да тых паэтаў, у якіх ёсць што сказаць сваім арыгінальным голасам. Апошні зборнік найбольш передуманы, рэфлексійны. Калі, на падставе „Ракіты” і „Блакітнага выраю” Тэрэса Занеўская вызначыла, што ў ягонай творчасці дамінуюць вобразы веснавой прыроды (у кніжцы „Podróż daremna”), дык у „Паху аернага хлеба” — прырода найчасцей спелая, асенняя. Пахнуць верасы, а лебедзь співае апошнюю песню.

*Яшчэ хвілінку,*
*Мiг*
*Мне падары, жыццё,*
*Наперад дай хоць крок ступіць.*
*Ты — белы мой анёл.*

**Мікола Ваўранюк**

*Уладзімір Гайдук, *Пах аернага хлеба*, Беласток 1997.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Марцін заступаў настаўніцу

Знаёмства з вучнямі Пачатковай школы ў Новым Корніне пачнем з трэцяга класа. „Зорка" наведала ўрок беларускай мовы. Гэтаму прадмету ў трэцім класе навучае настаўніца **Іаланта Грыгарук**. Яна заадно і выхавацелька трэцякласнікаў.

— Веданне беларускай мовы дапамагае вывучаць польскую мову, — кажа трэцякласнік **Андрэй Грыгарук**. Пра такую залежнасць ведаюць усе дзеткі, якія ходзяць на ўрокі беларускай мовы.

— Умеем адрозніць *х* і *г*, калі не ведаем як напісаць *rz* ці *ż* шукаем беларускіх адпаведнікаў. Ну, напрыклад, слова *rzeka* пішам праз *rz* бо маем беларускую *раку*.

— Праўда, — кажа спадарыня Грыгарук, — дзеці, якія не ходзяць на беларускую мову горш спраўляюцца з арфаграфіяй на ўроках польскай мовы.

У класе шаснаццаць дзетак. З пачаткам навучальнага года дайшлі школьнікі з Новага Беразова. Там ліквідавалася навучанне. Гэтыя дзеткі пакуль што прывыкаюць да новых абставін. Яны з захапленнем глядзелі на сваіх новых сяброў, якія дэкламавалі беларускія вершы.

Пачала **Малгажата Нічыпарук-Шыла**. Дзяўчынка прыгожа сказала лічылку. За ёй пайшлі і іншыя: **Рафал Давідзюк, Магда Шварц, Андрэй Грыгарук** і **Івона Крук**. Наканец Івона і Малгажата праспявалі „Песню пра маму". Пазней была сустрэча ў шостым і сёмым класах. Старэйшыя школьнікі добра ведаюць нашу газету. Многія шасцікласнікі і сямікласнікі ўдзельнічалі ў конкурсах „Зоркі".

— „Зорку" пачынаем ад крыжаванкі, — чую ў класе.

— Мне найбольш падабаюцца лісты і творчасць дзяцей, — кажа **Аня Крук**.

Яе брат **Андрэй** з VII класа таксама любіць беларускую мову. Хлапец рыхтуецца да прадметнага конкурсу. Аня і Андрэй хацелі б паступіць у беларускі ліцэй.



*Васьмікласнікі з Новага Корніна. Першы злева стаіць Марцін Мялешка.*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

У час сустрэчы мы гаварылі пра гісторыю і культуру найбліжэйшага наваколля.

— Я ведаю легенду пра Новае Беразова, — кажа **Томэк Швед**. Томэк не толькі расказаў яе, але і паабяцаў напісаць у „Зорку".

Іншыя дзеці, як **Павел Нічыпарук** ці **Эля Здраеўская** хвалілі беларускія казкі. Цешыць гэта, што наша газета дапамагае вывучаць беларускую мову.

У VIII класе таксама ёсць старыя сябры „Зоркі".

— **Марцін Мялешка** чытае заўсёды „Ніву", — кажа настаўніца **Ніна Куптэль**. — Нават у час канікул. За газетай едзе спецыяльна ў Гайнаўку. Праўда, Марцін самы актыўны ўдзельнік конкурсаў і выдатны карэспандэнт.

— У свята настаўнікаў, калі дзеці вялі заняткі, Марцін заступіў мяне, — кажа беларусістка Ніна Куптэль.

У класе 14 асоб.

**Павел Марчук** і **Пётр Юшчук** хочуць пайсці ў беларускі ліцэй. Апошнія яшчэ не вырашылі, куды ім ісці далей вучыцца.

— У мінулым годзе аж дзевяць асоб на трынаццаць вучняў пайшло ў сярэднія школы, — кажа **Іаанна Алексюк**, дырэктар школы. — Самым папулярным кірункам у апошнія гады з'яўляюцца эканамічныя школы.

Настаўніца матэматыкі **Антаніна Смалюк** вядзе пазаўрочныя заняткі з васьмікласнікамі. Яна, што трэба адзначыць, дапамагае школьнікам як валанцёрка. Зараз у школе 121 асоба. Апрача школьнікаў з Новага Беразова сустрэнем тут і гайнаўлян.

— Бацькі спакойныя за дзяцей, калі пашлюць іх у нашую школу, — кажа пані дырэктар.

Сярод гайнаўлян ёсць дзеці настаўнікаў.

Аказваецца, невялікая школа, дзе ўсе ўсіх ведаюць, дзе настаўнік мае аўтарытэт, зноў пачынае карыстацца добрай славай. Тут не праследуюць малодшых, не лаюцца, зважаюць на словы настаўніка.

Зорка

## Вершы Агнешкі Х.

### Папараць

А я пайду за ім.
Задрыжу ў росах,
зірну на сонейка,
рассыплюся па зямлі.
У мяне гонкія ногі.
Пішу па зямлі
тысячы думак,
раскажу воблакам
пра свае адвечныя тайны.
Усміхнуся да паветра.
Калі зацвіце неба,
спаткаюся з табою...
Калі закоціцца месяц,
згіну з папараццю...

* * *

Звязалі мяне,
Зрабілі зборнік.
А я хачу наадварот...

Звязалі мяне,
Пусцілі на перапынак.
А я хачу паводле
ўласных назіранняў...

Звязалі мяне,
Правільна сцягнулі да асновы.
А я хачу выказвацца...

Звязалі мяне,
Вызначылі параўнанне.
А я хачу быць іншая...

І я буду...

### Каб...

Каб зберагчы тую істоту,
Каб схапіцца і бегчы далей,
Каб утрымоўвацца да лёту,
І вельмі доўга каб было лягчэй.

Каб сэрца не разрывала грудзей,
Каб азірнуцца і ўбачыць ноччу,
Каб ізноў яно ўбачыла людзей,
І каб паспець расплюшчыць вочы.

Каб у зямлі прысутна заблытацца,
Каб я хаця быў чалавек,
Каб нічога сапраўды не баяцца:
Прашу — навек!

**Ад рэдакцыі:** Мілая Агнешка! Прапануем Табе дэбют у часопісе маладых літаратараў у Менску „Першацвет". Твае вершы варты, каб пазнаёміліся з імі таксама маладыя творцы і чытачы ў Беларусі. Калі далей хочаш быць інкогніта, падбяры сабе псеўданім.

**Міра Лукша,**
**член рэдкалегіі „Першацвета"**

# Міфы старой Беларусі

**9. Гарцук, Грамаўніца, Гуменнік**

***Гарцук***

Беларусы верылі, што ў вялікіх горах жывуць горныя духі — гарцукі. Яны выконваюць загады Перуна. У час усходу і заходу сонца гуляюць па горах як дзеці. У поўдзень стралою носяцца яны на конях па палях, лясах. Уначы перакідаюцца ў драпежныя птушкі і лётаюць па дарučэнні Перуна. Гарцукі возяць па небе грамавы жарон, на якім раз'язджае Пярун з вогненным лукам. Яны ўтвараюць вятры, буры, віхуры.

***Грамаўніца***

Грамаўніца — багіня лета, жонка Перуна. Беларусы ўяўлялі яе як прыгожую, поўную жанчыну, з галавой прыбранай спелымі каласамі. У руках Грамаўніцы плады палёў і лугоў.

***Гуменнік***

Гуменнік — дабрадушны дзядок маленькага росту, жыве ў стадоле (гумне). Ён ахоўвае гумно і дапамагае гаспадару сушыць і малаціць збожжа. Гуменнік падпярэзаны саламяным перавяслам. Калі чалавек пабачыць гэтага бажка, нельга гаварыць. Трэба адно хрысціцца і маліцца, а тады Гуменнік зробіць сваю работу і стане нябачным.

**Задача чытачам:** намалюйце багоў, бажкоў, нячысцікаў ці дэманаў, пра якіх пішам у „Міфах старой Беларусі". Самыя цікавыя малюнкі надрукуем у „Зорцы".



*Малюнак да казкі „Чорт-злодзей". Аўтарка малюнка, Уля, вучыцца ў бельскай „тройцы".*

# Слуцкае паўстанне

Случчына была адной з найбагацейшых правінцый Беларусі. На слуцкай зямлі існавалі вялікія традыцыі беларускага нацыянальнага руху. Тут таксама поўную падтрымку атрымала Беларуская Народная Рэспубліка, створаная з волі народу Актам 25 сакавіка 1918 года. Восенню 1920 года, калі палякі і расейскія бальшавікі падпісалі мірнае пагадненне, Случчына апынулася ў расейскай акупацыйнай зоне. 14 лістапада быў скліканы з'езд дэлегатаў ад жыхароў правінцыі, які выбраў Раду Случчыны і вырашыў пачаць узброенае змаганне супраць чужога панавання. Старшынёй Рады стаў Уладзімір Пракулевіч, які аб'явіў мабілізацыю ў беларускае войска. У кароткім часе сабралася звыш 10 тысяч маладых людзей гатовых змагацца за свабодную Бацькаўшчыну. Бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня — сімвалы беларускай дзяржавы — сталі сімваламі паўстанцаў.

27 лістапада бальшавікі кінулі на случчакоў сваю армію. У няроўным баі паўстанцы баранілі сваю зямлю амаль месяц. Калі скончыліся патроны і не было шанцаў вытрымаць у полі, слуцкая паўстанчая брыгада перасякла мяжу з Польшчай. Беларускія салдаты былі раззброеныя палякамі і змешчаныя ў лагеры для інтэрнаваных

Падчас гэтай вайны адзін з афіцэраў, Макар Краўцоў, напісаў беларускі вайсковы марш „Мы выйдзем шчыльнымі радамі", які пасля спяваўся жаўнерамі, што змагаліся за Беларусь.

# Ганарыстая варона

*(беларуская народная казка)*

Раскаркалася неяк увосень адна варона на сметніку:

— Вы сабе як хочаце, — кажа сяброўкам, — а я не магу тут цэлую зіму мерзнуць. Я не такая дурная варона, як вы!

— А што ж ты думаеш рабіць, разумная? — пытаюцца сяброўкі.

— Палячу за мора: там, кажуць, зімы не бывае.

— Ну што ж, — паківалі галовамі сяброўкі, — шчаслівай табе дарогі. А мы ўжо як-небудзь і дома перазімуем.

Сабралася ганарыстая варона і паляцела за мора.

Доўга ляцела ці нядоўга, аж бачыць, — пад ёю ўжо не вада, а зямля зялёная, зверху цёплае сонейка свеціць.

„Ну, — думае варона, — тут я спынюся". Апусцілася на высокае дрэва ды пачала выглядаць спажыву: выгаладалася нябось за дарогу.

Убачылі варону заморскія птушкі.

— Хто ты? — пытаюцца. — Ніколі мы ў сваіх краях такой птушкі не бачылі. Можа, ты паўночны салавей? Ён, кажуць, пяе, як званочак звініць.

— Але, але, — падхапіла варона. — Я — паўночны салавей.

А сама сабе думае: „Хіба я горш за салаўя спяваю? Чаму ж толькі яму гонар і павага?"

Зарадаваліся заморскія птушкі.

— Паспявай нам, паўночны салавейка! — просяць варону. — А мы паслухаем. Вельмі ж хочацца нам твой голас пачуць.

Задрала варона ўгору сваю дзюбу і заспявала на ўсё горла:

— Кар-кар-р! Кра-кра! Гэй, гэй! Я — паўночны салавей!

Пераглядваюцца птушкі паміж сабою, вушы лапкамі затыкаюць. „А няхай яго з такім салаўём! — шэпчуць. — Ён жа не лепш за звычайную жабу спявае..."

А потым не вытрымалі слухачы, гуртам наляцелі на варону і давай яе дзяўбці, давай таўчы. Траха не ўсё пер'е выскублі.

— Выбірайся, — крычаць, — прэч са сваімі песнямі! Не хочам мы цябе слухаць.

Вырвалася варона ад няўдзячных слухачоў і паляцела назад дадому.

А тут скора і вясна настала. Рэкі ад лёду ачысціліся. Не захацела варона на сметнік варочацца. Паляцела на рэчку. Села там на беразе і цікуе за рыбамі. Бачыць: паўзе рак. Ну, голад не цётка: калі няма рыбы, то і рак — рыба. Схапіла яна рака і сабралася ўжо снедаць, як раптам чуе ліслівы ракаў галасок:

— Вось добра, што трапіў у дзюбу не якой-небудзь чорнай галцы або граку, а самой пані вароне. Як жа мне пашанцавала! Ты ж такая прыгажуня, такая красуня, што і сказаць няможна. Шэрыя пёркі твае аж зіхацяць на сонейку. А галасок у цябе — як у таго салаўя, не раўнуючы: як пачнеш спяваць, дык на цэлы свет чуваць. Я не раз захапляўся тваімі цудоўнымі песнямі, у цёмнай нары седзячы. Хацеў бы я, пані варона, пачуць тваю песню яшчэ раз.

— Праўда, праўда! — каркнула ўзрадаваная ад пахвалы варона. — Гэта толькі дурныя заморскія птушкі зганілі мяне. Ну дык слухай!

І завяла варона на ўсю ваколіцу:

— Кар-кар-р! Кра-кра! Я не простая варона!

Скончыла спяваць, глядзіць — а рака і след прастыў.

Давялося ганарыстай і галоднай вароне зноў на сметнік да сяброўак ляцець.

# Конкурс, конкурс, конкурс!

**(н-р 5)**

**(літаратурныя гульні)**

Адкажыце на пытанні. Адказы дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Аўтары правільных адказаў могуць выйграць цікавыя беларускія кніжкі. У конкурсе могуць удзельнічаць ліцэісты. Просім адзначыць свой узрост.

1. Назавіце тры літаратурныя творы, у якіх выступае вобраз ваўкалака.
2. Хто з'яўляецца аўтарам верша „Пагоня" *(Толькі ў сэрцы трывожным пачую...)*.
3. Назавіце прынамсі двух прадстаўнікоў беларускага эстэтызму.
4. Дзе і калі нарадзіўся беларускі паэт Віктар Швед.
5. Якому беларускаму паэту пастаўлены помнік у Ялце?

**Адказ на літаратурны конкурс н-р 1 („Зорка" н-р 41)**

1. Сапраўднае прозвішча выдатнага беларускага празаіка Кузьмы Чорнага — **Мікалай Раманоўскі**.
2. Янка Купала і Якуб Колас нарадзіліся ў тым самым годзе — **1882**.
3. Верш „Люблю наш край" напісала **Канстанцыя Буйло**.
4. Ян Чыквін, паэт-„белавежац" — аўтар зборнікаў **Іду** (1969), **Святая студня** (1970), **Неспакой** (1977), **Светлы міг** (1989), **Кругавая чара** (1992). Неўзабаве выйдзе **Свет першы і апошні**.
5. Апавяданне „Пяць лыжак заціркі" напісаў **Змітрок Бядуля**.

Узнагароду, кніжку **Юркі Геніюша „З маёй званіцы"**, выйграла **Юстына Леанюк** з ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

# *Пішуць школьнікі*

**Вітай, „Зорка"!**

Ва ўступе майго ліста хачу прывітаць рэдактараў „Зоркі".

Хачу расказаць пра мае летнія канікулы. Я правяла іх у хаце. Дапамагала бацькам. Толькі на Пятра і Паўла я з сям'ёй ездзіла да бабулі ў Лешукі. У Ляўкове быў прыхадскі фэст. У час сенакосаў я пільнавала сястрычак, а бацькі працавалі. Нам дапамагалі бабуля і дзядуля. У час жніва бабуля пільнавала маіх сястрычак, а я ездзіла ў поле і працавала з бацькамі. У свабодны час я чытала кніжкі, аглядала тэлебачанне, рашала крыжаванкі, а таксама хадзіла да сяброўак. Іх завуць Аня і Ася. Мы разам гулялі, хадзілі па грыбы. Да нашых суседзяў з Катоўкі прыехалі дзеці: Дарота, Мажэна і Дарак. Вечарам усе дзеці сустракаліся і гулялі ў карты, ездзілі на веласіпедах, а таксама хадзілі за вёску.

**Ірэна Драўноўская, VII клас**
**Падставовай школы ў Новым Корніне**

**Дарагая „Зорка"!**

Я вельмі шчаслівая, што „Ніва" зноў будзе прадавацца ў крамах. Таму я напісала новы верш.

**Дзень настаўніка**

Ёсць такі адзін дзень у годзе,
Які мы павінны шанаваць штодзень,
Не забываць аб тых,
Якія нас вучаць адольваць перашкоды,
Якія заўсёды маюць для нас час —
Трэба іх шанаваць!
Усе мы ведаем,
Што калі настаўнік нас не разумее,
Не хочацца з ім працаваць.
Ды і такіх нам трэба шанаваць
І да супрацоўніцтва перакачаць.

**Сільвія Ракіцкая, ПШ у Нарве**



*„Бабка ў горад ад'язджала..." — дэкламатар Гжэсь Грыгарук з IV б класа бельскай „тройкі".* Фота Аліны Ваўранюк

# Польска-беларуская крыжанка № 45

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Kram, sklepik | Krwiopijca | Ryneczek | | Czoło / Tytoń |
| | Kret | | | | |
| | Ryba / Młyn | | | | |
| | | | | Dolar | |
| | Woda | | | | |
| Rąbek / Osiol | | | | | |
| | Słonina / Torebka | | | | |
| | | | | | Ar |
| | Lekarz | | Bożek egipski | | |
| | | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 41:**

Пячора, нырка, жонка, жах, казак, нуда, набат.

Вяночак, чын, хана, нюх, норка, зуб, Юрка, вада, Хаана, кат.

Узнагароды, фламастэры, выйгралі **Марта Рухальская** і **Пятрусь Янкоўскі** з Бельска-Падляшскага.

# Вялікае шчасце

**Пра навучане беларускай мовы на Сакольшчыне ў 60-я гады расказвае Лідзія БІЛЬМІН, жыхарка Рыбалаў.**

У 1961 годзе закончыла я Бельскі педагагічны ліцэй з беларускай мовай навучання. Прыехаў да нас тады інспектар асветы з Саколкі і так нас заахвоціў да працы на Сакольшчыне, што я і дзве мае сяброўкі ахвотна згадзіліся там працаваць. Я папала ў Сухінічы і мела вялікае шчасце, бо трапіла ў добрае асяроддзе і да вельмі добрага кіраўніка школы. Жылі там і каталікі, і праваслаўныя, і я наймала кватэру і ў адных, і ў другіх. Шанавала я іх, і яны мяне шанавалі. Калі каталікі ехалі ў касцёл, я ішла ў царкву, і яны добра ставіліся да мяне, бо ведалі, што я вучу іх дзетак, і вучу іх добраму. Старалася я гаварыць на іх гаворцы, а яны мяне прасілі, каб я гаварыла так, як гаварылі ў нас у Рыбалах; яны гаварылі *шуляк летаў*. Спачатку я не ведала, што гэта такое *шуляк*, а пасля выяснілася, што гэта наш *яструб*. Добра мне складвалася супрацоўніцтва і з уладамі, і з асобамі, што мелі дачыненне да беларускай мовы. У школу прыязджалі рэдактары з „Нівы" і працаўнікі БГКТ, а і я ездзіла на сходы ў Беласток. У Сухінічах вяла я тэатральны гурток. Урокі беларускай мовы наведвалі ўсе праваслаўныя дзеці і некалькі каталіцкіх; не здарылася тады, калі я там працавала, каб праваслаўнае дзіця не пайшло на беларускую мову. Беларускай мове навучала я ва ўсіх класах: ад 2-га па 7-мы. Да гэтага вучыла я яшчэ геаграфіі, біялогіі і рускай мове. Апрача мяне працавалі там яшчэ дзве настаўніцы — адна з Мельніка, а адна з Сакольшчыны. Кіраўніком школы быў Чэслаў Ляшук, вельмі добры чалавек, які выдатна ўмеў нас заахвоціць да працы. Ён быў прыезджым чалавекам, беларускай мовай не валодаў, але вельмі прыхільна адносіўся да яе.

Школа месцілася ў даваенным драўляным будынку, але вельмі прыемна ў ім працавалася. Вяла я тэатральны гурток на беларускай мове, у якім займаліся не толькі маладыя, але прыходзілі і людзі, якім было за пяцьдзесят. У Сухінічах працавала я шэсць гадоў, а наступныя два — у Кнышэвічах, дзе таксама навучала беларускай мове; там таксама на ўрокі беларускай мовы хадзілі ўсе праваслаўныя дзеткі, але каталікі, здаецца, не хадзілі. Выпускнікі школы ішлі вучыцца далей, на вёсцы аставалася мала. Адзін з маіх вучняў, Малішэўскі Лявон, хацеў астацца на гаспадарцы, але неяк я і бацькі ўгаварылі яго, каб вучыўся далей. Ён, калі студыяваў ужо ў Любліне, прысылаў мне вельмі цёплыя лісты, на прыгожай беларускай мове; гэтыя лісты і сёння я захоўваю. Пісаў, што калі мне ў жыцці будзе нейкая патрэба, яго сям'я і ён заўсёды будуць памятаць і заўсёды памогуць. Цяпер жыве ён у Беластоку, а яго жонка працуе лекарам у „Снядэцкіх"; вялікае ёй дзякуй за дапамогу ў лячэнні маёй мамы.

Чацвёра маіх вучняў, заахвочаныя, дарэчы, бацькамі, паступіла ў „мой" ліцэй, я іх прывозіла ў Бельск і тут прымала іх мая ранейшая настаўніца Мар'я Данільчык, якая раней вучыла мяне ў Рыбалах; сардэчна ёй дзякую за яе добрыя словы і асабісты мне прыклад; яна многа дапамагла мне і ў цяжкія для мяне хвіліны. Таксама і намеснік дырэктара ліцэя, спадар Федарук, пакінуў у мяне самыя лепшыя ўспаміны.

Паралельна з працай у Кнышэвічах я адзін год працавала павятовым інструктарам па беларускай мове; адводзіла на гэта адзін дзень у тыдні — суботу. Трэба было весці ўрок, паказваць, гаварыць. Настаўнікі вельмі стараліся, прыкладвалі да заняткаў і любоў, і сэрца. Але калі было нешта не так, не магла я паставіць заганы старэйшаму ад мяне настаўніку, і я пасля года адказалася ад гэтай працы. Была яна для мяне вялікай школай жыцця.

З Кнышэвіч перайшла я на працу ў чатырохкласную школу ў Рэпнікі; тут жылі каталікі, але такія каталікі, якіх няма больш на гэтай зямлі — вельмі добрыя. Калі з імі цяпер спаткаюся, мы пагаворым як найбліжэйшыя людзі. Жыла я тады ў Рыбалах, а яны штодня прыязджалі па мяне, прывозілі ў школу і пасля адвозілі дадому.

У 1976 годзе перайшла я на працу ў Рыбалы, і тут працавала аж да пенсіі. Вяла тут пачатковае навучанне, геаграфію, біялогію, гісторыю; беларускай мове не вучыла, бо рабілі гэта другія настаўнікі.

Мушу прызнацца, што выпала мне працаваць з вельмі сардэчнымі і шчырымі людзьмі; мо гэта быў такі час. Сёння ўсё мяняецца, і мне здаецца, што гэтыя змены прыходзяць зарана. Тое новае, яно мо і добрае, але яно прыходзіць неяк насільна, яно нас мучыць, прыбівае. У мінулым годзе здарылася мне правесці размову з адным маладым чалавекам, які тады хадзіў у пачатковую школу. Я была доўгі час працавала ў ПЦК; гэта вялікае шчасце несці дапамогу другому чалавеку, і найпрыемнейшая хвіліна тады, калі адбіраеш падзяку ад другога чалавека. Здарылася так, што адна дзяўчына патрабавала дапамогі, бо яна выбіралася за граніцу ратаваць сваё жыццё. Я правяла размову са сваёй моладдзю ў Рыбалах і яны мяне вельмі добра зразумелі, і сабралі столькі грошай, што я не спадзявалася. Яны зразумелі каштоўнасць чалавечага жыцця. І калі тая дзяўчына прыехала здаровая і шчаслівая з-за граніцы, і я чытала бацькам яе падзяку, яны расплакаліся. Я гэтага не саромеюся; я шчаслівая, што менавіта мы, Рыбалы, дапамаглі гэтай дзяўчыне вярнуцца да здароўя. І я вось таму маладому чалавеку расказвала гэта, а ён мне — што гэта старое і нямоднае. А я адказваю: прабач, гэта старое, але моднае. І ён перапрасіў мяне, і я зразумела, што маё слова дайшло да яго.

Калі б яшчэ раз прыйшлося мне выбіраць школу, зрабіла б я такі самы выбар, як і раней. Хачу прывітаць усіх, хто мяне помніць, і падзякаваць ім за тое, што далі мне столькі мілых уражанняў. Жадаю ім і іх нашчадкам многа шчаслівых і сонечных дзён.

*Спадарыня Лідзія Більмін з вялікім хваляваннем паказвае „Зорку"; там на здымку яе ўнучка. Адна ўнучка — у беларускім прадыкоплі ў Беластоку, другая — у беларускім класе пачатковай школы. І што самае цікавае: найбольш на навучанне дзетак беларускай мове настойвала нявестка — Рэната Більмін, карэнная палячка...*

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Пілі як на пагібель якую

— Дагуляўся, п'янюга. Цьфу на яго! Каб іх усіх тое спаткала, — хвалюецца кабета з сабачкам. Стаім перад вакном кватэры, дзе здарылася жудаснае забойства. Звычайны блёк у квартале Беласточак. Дарэмна шукаць тут сцэнічнага афармлення для дэтэктыўнага кінафільма. Не знойдзеце тут шэрых брам, у якіх старожаць выпівохі з чарнілам. Ніхто тут не пераступіць вам дарогі з нажом у руках, не кіне ў вас каменем для прыемнасці.

Звычайныя шэрыя блёкі, цішыня, маладзіцы з дзіцячымі калясками.

— Пані, — сцішае голас мая субяседніца, — яны як тыя кацапы пілі. Як на пагібель якую!

Суседзі Януша Л. нічога не ведаюць.

— А там! — махае рукой перапалоханы дзядзька, ад якога патыхала дэнатуратам.

Далей і вышэй ведаюць больш:

— Прыдуркаваты такі, — апісваюць злачынцу, — хаця па выглядзе інтэлігенцік. Часам сам да сябе на вуліцы гаворыць. Без працы, усё валэндаецца. Маці сваю, старэчу, лупцуе ды пенсію забірае. З усякімі п'янюгамі знаёмы. Кватэру на бардак памяняў, валацуг з усяго свету прымаў. Звычайны алкаголік такі.

**Пайшоў і не вярнуўся**

— Муж ніколі не гаварыў пра свае праблемы, — кажа жонка Сяргея К. — Дваццаць гадоў я з ім пражыла і не ведала, якія ў яго думкі па галаве хадзілі. Праўда, піў многа і сваркі заводзіў. З кулакамі кідаўся. Бывала, па людзях шляўся. Раз знайшла я яго перапітага ў старога алкаголіка на Засценках. А самай дзяцей гадуй, кватэру аплачвай. У канцы не сцярпела. Сказала яму: с... з хаты! Два месяцы не адзываўся. Пазней пазваніў і сказаў, што знайшоў працу, што хоча вярнуцца. Толькі аформіць усё канчаткова. Два дні перад яго смерцю пазваніў Януш Л. Сказаў, што тэлефануе з Варшавы і з'яўляецца шэфам Сяргея, што хоча са мной пазнаёміцца. Дамовіліся на трынаццатае.

З'явіліся пунктуальна. Сяргей прадставіў Януша Л. як свайго кіраўніка з Варшавы. Праўда, Януш Л. добра выглядаў. У белай кашулі з залатымі запінкамі, пад гальштукам, у чырвоным летніку, у доўгім карычневым паліто. Сяргей даў мне кветкі і шакаладкі. І чатырыста злотых на дзяцей. Пазней папрасіў у мяне на гарэлку. Бутэльку распіў з Янушам Л.

— Вярнуся, як усё будзе добра, — сказаў адыходзячы. — Вярнуся на Каляды, — дадаў.

**Я не люблю як памалу п'юць**

Расказвае Януш Л., злачынца:

— Сяргея К. сустрэў я ў суседа. Выпівалі разам. Сяргей начаваў у яго. Пазней перайшоў да мяне. Купаўся ў мяне, начаваў, разам пілі гарэлку. Дапамагаў мне часам. То хату падмяце, то памые свае і мае шкарпэткі. Раз мяне згневаў, бо пабіў дзверы на балконе. Гэтага дня прачнуліся мы ў шэсць гадзін раніцы. Сяргей пачысціў пыласосам вялікі пакой. Пазней пайшлі на базар „Мадро". Я там купіў дзве чвэрткі спірту. Частку распілі ў карчах. Да хаты данеслі толькі паўчвэрткі. Я развёў спірт з перавaранай вадой. Выпілі. У хаце была мая мама. Ёй 88 гадоў. Увесь час сядзіць яна ў сваім пакоі. У час п'янкі мы дамовіліся, што разам завітаем да жонкі Сяргея. Мы пабрыліся, памыліся, пераапрануліся і пайшлі. Па дарозе я купіў кветкі, а ён за мае грошы *бамбаньерку*. У хаце былі жонка і малодшы сын Сяргея. Яна не заўважыла, што мы выпіўшы. Дала Сяргею дзесяць злотых, а ён пайшоў і прынёс чвэртку „Чыстай". Яна не схацела з намі піць. Сядзелі мы там паўтары гадзіны. Пазней пайшлі да мяне. Здаецца, па дарозе купілі нейкі алкаголь. Як прыйшлі, то Сяргей стукнуў у сцяну і паклікаў суседа. Пачалі мы піць. Я не памятаю, хто купіў гарэлку. А можа гэта быў дэнатурат? Сусед увайшоў цераз балкон. У мяне такая мода завялася, што госці балконам увaходзяць. Дзверы былі закрыты. Памятаю, што я пераапрануўся. Зняў кашулю, нагавіцы, надзеў дрэс і тапкі. Мы пілі са шклянкі. Хутка пілі. Я не люблю, як памалу п'юць.

**Згневаў мяне, то яго забіў**

Януш Л. прадаўжае:

— Пачалі гаварыць пра палітыку. Памятаю, што сусед быў па маім баку. Сяргей назваў мяне старым камунякам і ўкраінцам. Сказаў, што „яны" мяне ўжо прыгаварылі на смерць. У мінулым я быў намеснікам старшыні Саюза сацыялістычнай моладзі. Сяргей ведаў пра гэта. „A idź ty w p..." сказаў я яму і сеў паглядзець тэлебачанне. Сяргей падышоў да мяне, схапіў за вопратку, узяў за вушы, стукнуў сваёй галавой у мой лоб. Балела, што аж засцяўся. То ён яшчэ мяне раз ударыў у галаву. Пасля ўзяў пыласос і пачаў чысціць пакой. Прыбраўшы прынёс падушку і пайшоў спаць. Я далей выпіваў з суседам. Сяргей заснуў. Пачаў храпці, сапці. Гэта знервавала мяне. Успомніўся боль, як ён біў мяне галавой. Я ўсхваляваўся. Устаў. У калідоры стаяла сякера. Заўсёды там стаяла. Хацеў яго стукнуць, адпомсціць за сваю крыўду, але не звесці са свету. Сусед сядзеў ля стала і нешта балбатаў. Я ўзяў сякеру і пайшоў у пакой Сяргея. Стаў ля шчытка ложка і з усяе сілы стукнуў яго. Хацеў папасці ў галаву. Ударыў абухам. Яшчэ раз. Паправіў. На твары з'явілася кроў.

Я сеў за стол і пачаў піць з суседам. Сусед таксама хацеў стукнуць Сяргея сякерай. Я не дазволіў яму на гэта. Мы зноў пілі. Пасля некалькіх хвілін я пачуў, як Сяргей хрыпіць. Знерваваўся я. Зноў пайшоў і стукнуў яго сякерай. Здаецца, прыконччыў. Не памятаю, каб яшчэ замахнуўся. Маці была ў сваім пакоі. Не, не бачыла нічога. Я накрыў Сяргея сваёй курткай. Далей не памятаю.

Раніцай як наскочыла паліцыя, сусед спаў побач Сяргея. Адвернуты бокам ад яго. Я не памятаю, што рабіў да ранку. Хіба заснуў у сваім пакоі.

**Ева Сцепанюк**

PS. Імёны персанажаў зменены. Непрыхільнік „камунякаў і ўкраінцаў" меў прозвішча на — *ук*.

# Новыя вершы

Міра Лукша

* * *

Расставанне — гэта боль,
Або радасць існавання.
Сохне мне на вуснах соль.
Слёзы шчасця лью? Аддання?

І не жаль ва мне трымціць.
І не роспач, не пакута.
Ўсе пачуцці разам зліць —
Ці лякарства? Ці атрута?

Захад сонца. Вуліц тлум.
Я заходжуся ад цішы.
Чорны ў тваіх зрэнках сум
Як атрамант ліст мне піша.

Уладзімір САЎЧУК

## Не пытайце

Не пытайце мяне
куды еду
душа схавалася
за палу чужога гора
ой цяжка цяжка
змяркае дзянёк
калі размова наша хвора.

Не пытайце мяне
куды еду
пустых слоў не адзене язык
раней
проста бяды баяўся
а цяпер да ўсяго прывык.

Не пытайце мяне
калі вярнуся
мае коні гуляюць свабодна
душа прывыкла цярпець адзінока
хаця не адзін у гэтай дарозе
калі вярнуся
пакіну сляды
— старыя дождж абмыў
на парозе.

Барыс Руско

## Пытанні

1

Пытаюся
пра дарогу да крыніцы,
пра сонца ў пячоры кажаноў,
пра дождж у зорную ноч,
пра слова бадзёрае прад адыходам.
І тыя, што маўчаць —
пытаюцца, толькі ніхто іх не чуе.
А колькі сумліву ў вачах —
анёлы ў шпаргалкі зазіраюць.

2

Пытанняў мноства,
зямныя кнігі ўсе запісаны,
адказаў некалькі.
І ў гэтым нічыя віна.
Ні тых, хто пытае,
ні тых, хто адказвае.
Бо свет празрысты —
адказаў не відна.

3

Я да прыроды неабыякавы,
жыву і думаю.
І прагну ведаў,
каб смялей глянуць
праўдзе ў вочы.
Таму шукаю тых адказаў.
А не знайду —
сабе прабачу,
бо ўсютка здзейсніў,
каб спазнаць слова
нявыказанае.

Івона Марціновіч

* * *

... раптам іскра
з іскры малітва
вылепі мяне па-новаму
дай кобальтавы небакрай над галавой
каб магла я адшукаць цябе
каханне страчанае
і ўвайсці ў смак жыцця на хвалі
вылепі мяне па-новаму
ўсмешку падаруй
бляск надзеі...
бо надта позна зразумела я
што каханне не ўзважвае колькі дало
але колькі атрымала
яно бязмежнае,
шэпча
схапі мяне
сярод цішыні
лагодна
у час калі нашы крылы
распасціраіца будуць
аж запалаюць агнём...
гэта будзе знак, каб затрымацца,
і кахацца днём ясным
ахінуты вуалем шчасця
таму прашу
вылепі мяне па-новаму
каб у таямнічых вачах
абвітая пахам траўня
душа мая
красавацъ ландышам магла
... для цябе
вылепі мяне па-новаму

# Апошняя сустрэча

У сераду 4 кастрычніка 1995 г. стаяла цудоўнае надвор'е: цёпла, ясна і ціха. На небе ніводнага воблака! Словам: залатая падляшская восень. У дзесяць гадзін — званок. Адкрываю дзверы — перада мною стаіць Васіль Петручук; быццам з неба зваліўся. Я ўзрадаваўся гэтым нечаканым госцем, які адразу адрапартаваў мне: „Спаўняю тваё жаданне, Барыслаў Фаміч! Едзем у Грабавец. І то без адкладу. У машыне чакае мая жонка Клаўдзія".

Я збіраўся фільтраваць ваду, але кінуў усё. Забраў геадэзічныя прылады, якія, дарэчы, былі ўжо даўно напагатове. Маёй жа марай было зрабіць тапаграфію дарог, мастоў і гідраграфічнай сеці ваколіц вёсак Грабавец і *Рудка*. А заадно і пабываць на радзіме пісьменніка... Бо і хто ж лепей можа ведаць назвы?

Рушылі мы ў дарогу. Аўтамабіль з дызельным рухавіком імчыцца з памяркоўнай скорасцю. Вось ужо і Парцава...

— Васіль Уладзіміравіч, едзем цераз Орлю. Я не магу аставацца раўнадушным... Вельмі цябе прашу: заедзем да настаўніка Мікалая Ляшчынскага. Гэта па дарозе, без ніякага збочвання.

Петручук ведаў, што гэта бацька Васіля і Юрыя Ляшчынскіх: згадзіўся. І вось, на вельмі прыгожым узгорку паказалася чароўная новая паўкруглая праваслаўная каплічка.

— Вось тут і затрымайся, — прашу я пісьменніка. Выйшлі мы з машыны. Клаўдзія пайшла глядзець каплічку, а мы дваіх накіраваліся ў скромны двор: плот, драўляная хата і невялікая павець. Адразу на нас заякатаў сабака. Пачуў гэта Мікалай Ляшчынскі і выйшаў. Мы прывіталіся. Стаімо каля форткі агароджы. І вось на гэту мітусню прыйшоў і вялікі белы гусак. Я не стрымаўся: адкрыў фортку і падышоў бліжэй. Гусак мяне не кусаў; стаяў непарушна. Я пагладзіў яго гладкую галаву, шыю, спіну. Я ён стаяў і глядзеў не варушыўшыся.

Гусак — мудрая птушка, помніў мае прыязныя адносіны да яго. У 1987-88 гг. я рабіў карту тапанімікі дарог, мастоў і гідраграфічнай сеці цэлай Арлянскай гміны. Вядома было, што настаўнік сельскай школы Мікалай Ляшчынскі з'яўляецца чалавекам інтэлігентным і добразычлівым, а да таго ж збірае матэрыялы па гісторыі мястэчка Орлі. Расказаў ён мне цікавую гісторыю пра гібель вёскі *Вервочка*. На жаль, не мог ён удакладніць другіх назваў, бо быў чалавекам прыезджым; пасля гэтыя матэрыялы ад яго імя надрукавала „Ніва". Стаяла тады прыгожае надвор'е і мне ў гэтым цудоўным месцы хацелася зайсці за агароджу гэтага добрага чалавека, легчы на зямлю і на хвіліну забыць пра ўсе подласці гэтага свету, а асабліва пра тыя, якія спаткалі мяне асабіста. Гусак жа быў тады гаспадаром двара; сабакі яшчэ не было. І ўвесь час стараўся кожнага прышэльца пачаставаць ударам свае моцнае дзюбы. Слова за словам мы згаварыліся пра гэту цудоўную птушку.

— А ведаеце, спадар інжынер, — пачаў настаўнік — гусак, гэта мой верны друг, вялікі прыяцель; каб ён са мною жыў усе дні маёй бытнасці на гэтай зямлі. Я лічу вас інтэлектуалам і вы павінны зразумець мяне. Ды судзіце самі: вось ісціна, чыстая праўда. Аднойчы пайшоў я ў сталовую паабедаць і, відаць, дрэнна закрыў фортку. Гусак вылез, пайшоў на дарогу, растапырыў крылы і пасярэдзіне праязной часткі пабег шукаць мяне па Орлі. Ды вось пытанне, якое мяне дасюль хвалюе: як ён даведаўся месца, дзе я сяджу за сталом і абедаю?! Гляджу, а ён улез цераз парог адчыненых дзвярэй і да мяне! Прыгнуў шыю і радасна загагатаў, абрадаваўся нашай сустрэчы. Усе людзі бачылі, як ён бег сярэдзінай вуліцы з растапыранымі крыламі і машыны яго мінаілі. І вы ж падумайце; гэта ж не старэчая амнезія, а ісціна. Я захоплены гэтым здарэннем. Вучоныя многа ведаюць, а вось як думае матэрыя, магчыма, і ніколі не дойдуць. А паштовыя галубы: як арыентуюцца? Ці ведаюць гэта вучоныя?

Многа мы тады яшчэ гаварылі пра нашу бытнасць, а было гэта даўно.

А вось 4 кастрычніка я не спадзяваўся, што гэта наша апошняя сустрэча. Як заўсёды, паводле праваслаўнага звычаю, я развітаўся з ім трайным паклонам. Мы ўзялі курс на Грабавец. Мы затрымаліся побач могільнікавых варот. Перад намі масіўны помнік маці Васіля Ганны Паўлаўнай Петручук. Клаўдзія памыла помнік, а Васіль запаліў свяшчэнны агант на магіле маці. На развітанне з магілай Ганны Паўлаўны Петручук я запісаў вершаваную эпітафію, складзеную яе сынам Васілём Уладзіміравічам, які не памятае свае маці, а яго страшныя бедствы ў дзяцінстве былі паслядоўнасцю яе смерці. Трагічнае сіроцтва!.. Вось яна, кранаючая душу эпітафія на помніку:

Мать моя родная, я тебя не знал,
Ты ушла навеки в землю,
когда я был мал.
Ты не знаешь Мама, и не будешь знать,
Как пришлось мне, сироте —
без тебя страдать.
Как я жил мальчишкой посреди людей,
Знает солнце, месяц в небе,
В роще — звер и соловей...

З цяжкімі думкамі выйшаў я за агароджу могілак. Селі мы ўтраіх у машыну і рушылі цераз Дубічы-Царкоўныя на вадасховішча. Там я пабачыў пустуючыя драўляныя пабудовы, прызначаныя для турыстаў. Недалёка ў полі стаяў праваслаўны жалезны крыж на каменным пастаменце. Адтуль палявою дарогай мы рушылі на акраіны палеў вёскі Грабавец. Пабачыў я, што многія з камянёў, што прастаялі мільёны гадоў, знішчаны; асталося іх нямнога. А чапаць валуноў не трэба. Яны валодаюць асаблівай сілай уздзеяння на жывыя арганізмы, узмацняючы іх.

Я ўвесь час сачыў за паводзінамі Петручука. Трагедыя заўсёды адчувальная ў чалавека з уражлівым характарам. Праехалі Грабавец і Васіль не праяўляў ніякага жадання да каго-небудзь заехаць. Калі мы праязджалі праз Грабавец, я асцярожна спытаў Васіля: „Дзе тая хата, у якой ты праходзіў зямное пекла?" Ён паказаў мне мураваны дом і сказаў: „Ён стаіць на месцы драўлянага, у якім я калісь пражываў". Там прайшлі яго трагічныя дні ўкрадзенага дзяцінства. Стоячы на лузе побач мастка, я запісаў і нанесіў на карту назвы ўчасткаў тэрыторыі. Дарогаю, з боку *Рудкі*, да нас наблізіўся малы жоўты „Фіат-126п". Спыніўся. За рулём сядзела маладая жанчына. Была гэта Васілёва сваячка, прывіталася з ім. Неўзабаве мы рушылі далей. З канцом збудаванняў скончылася і дарога „Грэбля". Мы выехалі на жвіроўку, што называлася „Шэлешкова". Па дарозе да галоўнай магістралі, шасэйнай дарогі Орля—Дубічы-Царкоўныя, я запісаў назвы: Круцкі груд, Глінкі, Савіны, Подзіоські, Вербыннікі, Купа і гістарычна правільную назву вёскі — *Рудка*.

Ужо сонца спусцілася нізка над гарызонт. Светлыя прагаліны ў лясных энклавах ледзь прасвечваліся. Нарэшце і мястэчка Орля: едзем той жа дарогаю, што і раніцай. З левага боку мы пабачылі вельмі прыгожую каменную капліцу. Там за ёю мае прыяцелі: настаўнік Мікалай Ляшчынскі і яго белы мудры гусак. Ды сёння, калі я пішу гэтыя ўспаміны, сэрца маё напоўнілася пустэчай антыматэрыі. Адчужанай мне цяпер стала Орля. Мікалая Ляшчынскага няма ўжо сярод жывых. А які лёс яго любімай птушкі? Хто пасільны зразумець рамантыку дружбы чалавека і птушкі?!

Вялікі смутак мой і няўцешнае гора. Вось што асталося мне сёння ў гэтыя панурыя дні.

Хай будуць жывою памяццю аб бацьку яго выдатныя сыны, Васіль Ляшчынскі — дырэктар беларускай Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім, і Юры Ляшчынскі — журналіст беларускіх перадач Беластоцкага радыё.

Астаюся ў смутку і няўцешным горы, дарагі, незабыўны друг МІКАЛАЙ ЛЯШЧЫНСКІ.

Снежань, 1995 г.

**Інж. РУДКОЎСКІ Барыслаў Ф.**
**г. Бельск-Падляшскі**

# Хто выратуе вятрак?

**Ветракі — матэрыяльны доказ умоў жыцця і здабыткаў нашых продкаў. Час няўмольна плыве і нясе з сабою новую тэхналогію, а найбольш каштоўныя прыклады народнага дойлідства становяцца помнікамі. Аднак пакінутыя без догляду ветракі разбураюцца і неўзабаве беззваротна прападуць з нашага падляшскага краявіду.**

— Няма аб чым гаварыць! Гэты вятрак (*на здымку*), мабыць, нядоўга прыйдзецца самому ліквідаваць, — кажа **Пятро РОЛЯ** — 65-гадовы жыхар Крывятыч, уладальнік вясковага архітэктурнага помніка. — Дзетвара і моладзь адрываюць дошкі, разбураюць абшыўку, а пасля апошняй забавы ў сярэдзіне ветрака толькі прэзерватывы валяліся...

Вятрак пабудаваў у полі мой бацька, Рыгор Роля. Пры санацыі быў у нас яшчэ меншы млын, на панадворку. Тады ветракі былі вельмі патрэбныя. Размолвалі мы тут зерне на муку не толькі сабе, але і навакольным людзям. Млынар карыстаўся пашанай аднавяскоўцаў і меў даход. Вятрак на панадворку выкарыстоўваўся для прыводу ў рух сельскагаспадарчых машын. Пасля з'явіўся электрычны рухавік і людзям больш выгадна было вазіць зерне да вялікага млына ў Орлі, бо даставалі там больш мукі лепшай якасці. З кожным годам змяншваўся лік кліентаў ахвотных карыстацца паслугамі ветранога млына. А вятрак штосьці і раз трэба было рамантаваць.

Крылы такога ветрака мелі 13 метраў даўжыні і для бяспекі былі замацаваны 2 метры над зямлёй. Крывятычы знаходзяцца на ўзвышшы і найменшы ветрык прыводзіў крылы ў рух. Гэты вятрак, вядома, калі былі ў яго яшчэ крылы, я сам выкарыстоўваў для прыводу ў рух крайзегі (дыскавай пілы). Умею зрабіць добрую сталярку, паставіць дом, муравацьь. Займаўся я таксама агародніцтвам і сельскай гаспадаркай. Люблю працаваць, не пераношу бяздзейнасці, напрыклад, сядзець перад домам на лавачцы і балбатаць аб нічым.



Цяпер гэты вятрак можа выратаваць капітальны рамонт і пастаянны догляд за ім. Трэба было б перанесці яго бліжэй збудаванняў. Я ўжо апаведнае месца на сваім панадворку маю, але перацягнуць яго, з цяжкімі камянямі ўсярэдзіне, будзе вельмі складана. Калісьці такія вялікія жарнавыя камяні для ветракоў і меншыя для ручных жорнаў ды каменныя падмуркі рабіў у нас мясцовы майстра Журавель. Хацелася б выратаваць гэты вятрак. Гэтага жадаў бы таксама мой пакойны бацька. Але каб яго адбудаваць, патрэбна драўніна, а гэтай у мяне няма.

* * *

Помнікі нашай культуры павінны ахоўвацца ўсім грамадствам. Але хто дапаможа выратаваць стрыжнёвы вятрак (казлоўку) ў Крывятычах?

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

PS. У жніўні гэтага года гаспадар старанна разабраў свой ветрак і склаў па сваім панадворку.

# Кнігі як свежыя булачкі

... можна досыць танна купіць у рэдакцыі „Нівы". Кнігаранька ў нас невялікая, зробленая на хуткую руку, але зацікаўленым прапануе м.інш. амаль усе зборнікі „Беларускіх навуковых сшыткаў", кнігі „белавежцаў" (у іх ліку — самыя новыя — зборнік Уладзіміра Гайдука „Пах аернага хлеба", Міколы Гайдука „Белавежскія быліцы і небыліцы"), зборнічак пачаткоўцаў (плён літаратурнага конкурсу „Плыву морам свайго жыцця", таксама літаратурны часопіс „Kartki", кнігі Юрыя Весялкоўскага з Вялікабрытаніі „Беларусь у першай сусветнай вайне", „Няясна мроіліся новыя дарогі", а таксама кнігі выдадзеныя Праграмнай радай тыднёвіка „Ніва" — „Дзённікі" С. Яновіча, „Лёс аднаго пакалення", „З маёй званіцы" Юркі Генюша, „Роздумы на калёсах" Дзядзькі Кваса, „Панарама гмін усходняй Беласточчыны" Янкі Целушэцкага і іншыя. Як свежыя булачкі — кнігі проста з Беларусі — з Гродна — прывозіць наш „кніганоша" Максім Пархамчук. Між іншым, прывёз ён „Энцыклапедыю Гісторыі Беларусі" і гістарычныя кнігі (можна заказаць іх у „Ніве"). **(лук)**

# Не дазваляйце загінуць!

Канчаецца чарговы год рынкавай эканомікі. Для многіх прадпрымальнікаў і ўстаноў гэта чарговы год фінансавых прыбыткаў, іншым — цалкавіты заняпад.

Аб грашовых праблемах Спартыўнага клуба „Калеяж" у Чаромсе я пісаў на старонках „Нівы" ў сваёй публікацыі „Будні чаромхаўскага спорту" ад 30 чэрвеня 1996 года.

Нядаўняя сустрэча і размова з трэнерам каманды Славамірам Багроўскім перакакала мяне ў думцы, што калі не знойдзецца спонсар і не прыкіне некалькі злотых чаромхаўскаму спортклубу „Калеяж" у касу, цяжка будзе гаварыць аб спартыўнай дзейнасці ў наступным сезоне.

Ідучы насустрач просьбы калегі Багроўскага, хочацца звярнуцца з заклікам да людзей добрай волі з Чаромхаўскай гміны (ды не толькі): не дайма загінуць чаромхаўскаму клубу „Калеяж"! Падтрымайма прыгожую традыцыю грамадскай працы нашых футбалістаў. Яны за гэта будуць нам удзячныя!

**Уладзімір Сідарук**

# Смак радзімы

Аляксандр Вярбіцкі ў цікавым палемічным артыкуле „Цудоўнае міфамантсва" („Ніва" н-р 41) праўдзіва паказвае вобраз Варшаўскай бітвы 1920 года, у выніку якой былі разбіты бальшавіцкія войскі, а палякі ахрысцілі яе „цудам над Віслай". Ці мелі яны права даць такую назву? Гэтак вырашыў народ. Аўтар закранае і іншую істотную справу: ці мы маем права адносіцца пагардліва да палякаў і іх урада, які гарантуе нам свабоду, дэмакратычныя законы, не бароніць карыстацца роднаю моваю і мала таго — тэлебачанне перадае нашы перадачы, дзе можам выказаць нашы набалелыя праблемы. На жаль, многія беларусы з яўнай іроніяй адносяцца да ўсяго, што звязана з польскай гісторыяй пачатку 20-га стагоддзя і толькі ў Сталіне і Лукашэнку знаходзяць свой паратунак. Калі б палякі праігралі Варшаўскую бітву 1920 года, тады дарога ў Сібір і на Калыму была б для нас усіх прасторнай і цешыліся б мы „необъятной родине своей". Вельмі дзіўна, калі чалавек, які штомесячна атрымоўвае больш дзесяці мільёнаў старых злотаў пенсіі, найбольш на тых палякаў валіць.

У гэтым годзе атрымаў я кнігу Іванова на рускай мове „Логика кошмара", у якой аўтар піша пра Тухачэўскага і пра Варшаўскую бітву менавіта так, як і Аляксандр Вярбіцкі; што маршал Тухачэўскі не быў такім бліскучым геніем, як яго некаторыя прадстаўляюць. І чаму палякі выйгралі пад Варшавай? Да гэтага прычыніліся гераізм польскіх жаўнераў, кемлівасць камандзіраў і найважнейшае: маральная стойкасць і шырокая падтрымка цэлага народа. Бо ў іх радзіма — святасць. І ім можна толькі пазайздросціць.

**Мікалай Панфілюк**

Моладзь — якая яна?

# Бывае і такая

Амаль штодзень у сярэднія агульнаадукацыйныя, прафесіянальныя ды сельскагаспадарчыя школы ў Гайнаўцы даязджае шмат моладзі з блізкіх і далёкіх вёсак. Не ведаю, як у іншых аўтобусах ПКС, але вось у адным з іх, які ездзіць з Гайнаўкі ў Беласток цераз Навасады, Скупава, Нараўку і Ляўкова, дзеецца нешта дрэннае. Асабліва ў адным, які ў працоўныя дні ад'язджае з Гайнаўкі а гадзіне 15.25. Ездзіць ім найбольш вучняў, якія якраз у гэтую пару вяртаюцца дадому пасля заняткаў у школе. Найбольш яе з мястэчка Нараўка.

Моладзь першая — гэта ўжо амаль як правіла — зойме сабе месца, а старэйшых пасажыраў прымушае стаяць. Не зважае нават, што пасярэдзіне аўтобуса стаіць інвалід з пратэзам або з ключкай. Хлопцам абы хутчэй заняць сабе месца ды... пайграць у карты. Дзяўчаты, рослыя і прыгожыя — хіба яны ўсе спартсменкі? — скокам ды бокам убягаюць-улятаюць у адкрытыя дзверы (іх шафёр адкрывае ажно трое) і займаюць адна другой месца седзячае побач сябе. А потым ужо сядзяць і глядзяць сабе ў акно або бяруць у рукі сшытак ці кніжку, або аглядаюць фотаздымкі свае і знаёмых. Вось такія „бабулькі" і „дзядулі" едуць і месца нікому старэйшаму не ўступяць. „Старэе" нам моладзь дый годзе. Некаторыя дрэмлюць сабе або не могуць наглядзецца цераз акно. А пажылыя, з сівізной на скронях пасажыры здзіўляюцца толькі, як зараз школа выхоўвае нашу моладзь. Чаму ў юнакоў і дзяўчат такія паводзіны? Быццам яны за ўсіх і мудрэй, і важней.

Людзі добрыя, куды мы ідзем! Чаму цяпер маем такую — як у апісваемым выпадку — непаслухмяную ды абыякавую да ўсяго акружаючага моладзь? Гэта ж не хто іншы, а нашы дзеці. Яны па ўсяму відаць — не будуць і не захочуць нікому пасаступаць, не толькі старэйшым за сябе. Абы толькі мне было добра. Толькі я на ўліку. А дзе ж у моладзі тая элементарная так званая культура на кожны дзень? Дзе? Мае знаёмыя кажуць, што, мабыць, цяпер школы толькі вучаць, а выхоўваць яму не мусяць. І сапраўды гэта адпавядала б сённяшняй рэчаіснасці. **(яц)**

# Валейбольныя змаганні

18 кастрычніка г.г. у Гайнаўскім беларускім ліцэі былі разыграны таварыскія матчы па валейболу паміж камандамі з Гайнаўшчыны на кубак і дыплом Гарадскога спартыўнага клуба. У сістэме кожны з кожным гулялі каманды Гайнаўскага спартклуба, Лясных школ з Белавежы ды мясцовых Прафтэхвучылішча і Белліцэя. У турніры перамаглі ліцэісты (88 ачкоў) перад белавежскімі леснікамі (84 ачкі). У непасрэдным змаганні каманда з Белавежы перамагла ліцэістаў, але пацярпела паражэнне ад ГСК. Падчас турніру вулучыліся Тамаш Дынкоўскі (Белліцэй), Пётр Банцэвіч (Белавежа), Адам Сцепанюк (Прафтэхвучылішча) і Тамаш Гапанюк (ГСК).

Каманду Гайнаўскага беларускага ліцэя састаўлялі: Тамаш Дынкоўскі, Марк Коська, Цэзарый Шыкула, Міраслаў Куптэль, Пётр Харкевіч, Мар'юш Мілеўскі, Пётр Мароз, Андрэй Іванюк. Запаснымі ігракамі былі Пшэмыслаў Паўлючук, Тамаш Граматовіч і Данель Чапко.

У лістападзе адбудуцца спаборніцтвы І лігі сярэдніх школ па валейболу. Апрача пералічаных каманд (акрамя ГСК) у розыгрышы выступяць каманды Механічных школ з Беластока і Лап ды ІІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя з Беластока. Інаўгурацыйны матч Белліцэй разыграе ў сябе 8 лістапада з лапскай камандай.

**Славамір Кулік**

# Падзяка аўтарам

Звярнулі маю ўвагу два артыкулы на 10-й старонцы 40-га нумара „Нівы", да якіх хачу крыху дакінуць ад сябе. Першы з іх гэта ўспаміны Васіля Сакоўскага „З мінулага маёй сям'і, вёскі, мясцовасці", дзе аўтар аналізуе і дасягненні пры камуне, і тое, што тады было выканана без галавы. Возьмем для прыкладу школы: будуючы „tysiąc szkół na tysiąclecie" ўлады дапусцілі вялікую дурніцу, бо будавалі дзе трэба і дзе не трэба. Сёння сотні гэтых школ страшаць сваёй руінай з простай прычыны: няма дзяцей. Навошта было, напрыклад, у Дубіцкай гміне будаваць школу ў невялікіх Чахах-Арлянскіх, мінаючы самыя Дубічы-Царкоўныя? У Дубічах школа яшчэ з царскага перыяду і менавіта тут трэба было будаваць новую.

Другі артыкул Мікалая Лук'янюка „Заўсёды пакрыўджаныя" змяшчае вялікую праўду: нам заўсёды вецер у вочы. І хто б не быў пры ўладзе, мы заўсёды астанемся ў дурнях, бо мы народ мяккі: не пайшлі на выбары, каб гуртам аддаць свае галасы толькі на сваіх. І тут наша віна.

**Мікалай Панфілюк**

# Парнасік

## Дасканалы Лекар

Свет — як установа
хворых людзей,
Атручаная сатаною
і злой думкай.
Гарачка спальвае людское жыццё,
Знішчае кшталт чалавечнасці.
Чалавек, абдораны розумам,
Найвышэйшая істота стварэння,
Праз непаслухмянасць Яму
Стварае сябе псіха-фізічны
І духовы аспект упадку.
Праклёнце, грэх і кананне.
Каб вызваліцца з кіпцюроў
няволі,
Ёсць Сын — Лекар дасканалы,
Дасведчаны ва ўсім,
Мае ўладу на небе і на зямлі.
Дае супакой душы. Ён кажа:
Вазьмі крыж, і ідзі са мною,
Без страху і ганарлівасці,
І будзеш здаровым.

**Іда Кавалевіч**

## Восень завітала

Восень да нас завітала,
Карацейшыя дні даравала,
А ночкі пастаянна растуць,
Гняздо сваё роднае будзем мы *куць*.
Каб не рассыпалася ў *прах*,
Трэба направіць векавую
сцяну і дах,
Каб ветры чужыя іх не зрывалі,
І нашага шчасця; найлепш —
каб мінавалі.
Будзем трымацца сцяною,
Сцежкай-дарожкай ісці *раднёю*.
І ніхто не разбурыць наш дом:
Ніякая завіруха ці пералом.
Восень жыве і ў чалавеку
Вельмі здаўна, спрадвеку.
І нас відаць па духоўных
добрых пладах,
Калі шчыльна і дружна
стаім у радах.
Восень мае свой асаблівы чар —
Гэта Божы цудоўны,
рамантычны дар.
Усё прыбіраецца каб адпачыць,
У дружбе і любові ўсім трэба жыць.
Дрэвы асеннія далікатна
жаўцеюць,
Ветры халодныя часта нам веюць,
Лісце ад подыху восені
круціцца вірам
І толькі нам жыць у спакоі і міры.
Мы маем свой кут, хату,
І жывем бедна і багата.
Ад холаду мы ўцячом,
Адказнасць да сэрца бярэм
За птушак, звяроў — іхні лёс,
Каб сцюжы, марозы і голад
ён перанёс.
Лёгка гэта ўсё сказаць —
Працай, сэрцам і душой даказаць.
Восень — і скора зіма наляціць,
Гонарам родным будзем усе
даражыць.

**Мікалай Панфілюк**

## Асенні напеў

Восень наступіла,
Лісцем накрыла
Вакол дрэў, кустоў
І сярод садоў.
А зямля прымае
І восень праслаўляе.
Яна *кладавая*,
Усім нам дарагая.
Стала халадней,
Дык ідзем бадрэй!
Каб не ўтаміцца,
З кожным прымірыцца.
Мір — вялікі дар,
Бога праслаўляй,
І восень будзе мілай,
Роднай, не *завілай*.
Сабралі з палёў
І ідзем далей
Гной вазіць, араць,
Сеяць, прадаваць...
І то ўсё кругом,
Полем і *лугом*
Нашы сцежкі круцяцца,
Аж у галаве замуціцца.
І прыходзіць вечар,
А асенні вецер
Шугае, спявае,
Журбой абнімае
Нашы думкі, планы;
Не чуваць тут маны.
Асенні напеў —
Плён ужо даспеў.

**Мікалай Панфілюк**

## Белыя плямы

Каб белыя плямы
У гісторыі скасаваці,
Тады трэба людзям
Праўду ўсю сказаці.
Што калісь бывала
Каб усе людзі зналі,
Як адзін другога
Начамі забівалі.
Як мірныя людзі
У той час пражывалі,
Калі ўсё з іх хаты
Банды забіралі.
Калі хто быў адважны,
Хацеў парадак трымаці,
То не мог спакойна
Начаваць у хаце.
Тады ён стараўся
Ўсіх нас ахаваці,
А цяпер яго сталі
Здраднікам называці.
Тым што рабавалі,
Людзей забівалі
Званне ветэранаў
Ужо падаравалі.
Ён цяпер героем
Лічыцца ў свеце
Хаця ішоў беларусаў
Ноччу забіваці.
Калі не будзе праўды,
Гэта трэба знаці,
Тады сіроты-дзеткі
Будуць іх праклінаці.

**Мікалай Лук'янюк**

# Вер — не вер

Братка Астроне! Уяві толькі сабе да чаго ўжо дайшло. Людзям дык нейкія сэнсоўныя сны сняцца, а мне, дальбог, чорт ведае што. Вось і ў апошні час прыснілася, ведаеш, што?! Што я нарэшце ем нейкі суп. Але з апетытам, у руцэ трымаю хлеб.

А ўсё гэта з-за той заразы, Ксантыпы маёй. Што? Не чуў ты, што гэта была за яна? Дык гэта ж сварлівая жонка Сакрата! Ды не, не гэтага Сакрата, не нашага. У яго, брат, вунь якая Танечка спакойная, ды і памочніца яшчэ! Я кажу пра таго, першага Сакрата, антычнага яшчэ. Жыцця, кажуць, чалавеку ягонага Ксантыпа не давала. І, бач, такая ведзьма ўвайшла ў гісторыю.

Дальбог, такая і мая. Хоць ты ёй кол на галаве цяшы, а яна — сваё. Паслушэнства ніякага. Усё пабегла ды пабегла. Дзе ж гэта можна столькі цягацца? Каб хоць супу нейкага мужу наварыць — дык не! На гэта ёй шкада часу. Але пабегчы, як толькі тая ці іншая сяброўка пазвоніць, дык на гэта часу ёй не забракне!

Ты, Астроне, ужо, напэўна, падумаў пра мяне: разбрахаўся! А што, не магу?! Дзеля чаго ж я жаніўся, скажы! Ано каб чуллівыя слоўцы на вуха ёй шаптаць, гарачым дыханнем падмацоўваючы? Годзе! Мне жэрці трэба! Ужо і так ледзь ногі валаку. Як дзеці з хаты павыходзілі, дык і гатаваць перастала. Мужыка, бач, за нішто мае. Ёй толькі грошай больш давай. Усё мала ды мала. А не думае, што, каб зарабіць, дык і сілы мець трохі трэба.

Ат, што там, дурная баба і ўсё. І так сяджу я сабе і думаю: мо кінуць усё гэта к чорту ды даць драла да маладзейшай, лепшай і спрытнейшай... Дзеці ўжо — самі сабе, а што мяне тут трымаць будзе? Маладая — яна і тут, і там паспее. Дык як ты, думаеш, Астроне, наконт майго сну?

**Мікола**

Братка Мікола! Перабраў ты крыху! Ну, хай сабе супу не наварыла, то што, ужо ў хаце не знайшлося чаго іншага, каб з'есці?.. А ты ўжо зараз уцякаў бы. Куды цябе нясе? Да маладзейшай?

Маладзейшая, яна, брат, цябе (вольнага) ахвотна прыме. Ано памятай, не дзеля таго, каб табе жратву рыхтаваць, а, галоўнае, каб грошыкі твае загаспадарыць. Ведаем мы тых маладзенькіх, што за старых выходзяць!

Ну, суп табе прысніўся, дык і што? Ужо ж амаль і наеўся. Трэ было ўстаць, каўбасы кусок урэзаць, то быў бы і абед... А ты тут, братка нюні распусціў.

Але ўважай, мая старая кажа, памочніца верная, што ўсё ж той суп можа прадвяшчаць кепскае. Улады, бач, змяніліся, дык ізноў у нас будуць вялікія перамены. Глядзі, брат, пільнуйся лепш, каб на супчык-„куранёўку" не давялося перайсці. Больш, чым на бабу, звярні ўвагу, што дзеецца на службе.

**Астрон**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. гарызантальные перакрыцце ў корпусе судна, 7. напр. Мэрлін Манро, 8. Джаакіна, італьянскі кампазітар (1792—1868), 9. страва з аўсянай мукі на малацэ і масле, 10. выязны лакей часоў прыгоннага права, 14. даводжанне да сытасці, 18. пустыня ў Чылі, 19. выспа між Баранцавым і Карскім марамі, 20. моцнае хваляванне ад небяспекі, 21. частка бота.

**Вертыкальна:** 1. прыстасаванне для лоўлі звяроў, 2. стол у кафэ, рэстаране, 3. уладальнік шынка, 4. месца ў жыллі, якому даўней прыдавалася вялікая важнасць, 5. старажытнагрэчаскі рытар (каля 445—380 да н.э.), 6. моўнае сямейства ў цэнтральнай і паўднёвай Афрыцы, 11. Энрыке, уругвайскі пісьменнік (1900—60), 12. казачнае страшыдла ў выглядзе крылатага змея, які дыхае агнём, пажырае людзей і жывёлу, 13. дэталь кампрэсара, якая закрывае праход газу, 15. раздвоены язык у ядавітых змей, 16. разбэшчанае баляванне, 17. высокі слуп для парусоў. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Міні-даведнік:** Лісій — атыцкі прамоўца, які свае выступленні дастасоўваў да характару і адукацыі слухачоў.

**Адказ на крыжаванку з 38 нумара**

**Гарызантальна:** шпік, кулан, абечак, брат, скарб, Агароў, Дактораў, янтар, нафталін, Веласкес, ладан, Беавульф, форынт, друід, Арый, Рэмарк, актэт, Алст.

**Вертыкальна:** вулкан, Баярда, „Пурытане", Катар, Белаў, галоп, Барысфен, Гаштольд, язва, Тэла, след, Анон, Астурыяс, Афрыка, афіцэр, Лоўэл, Быкаў, атака.

# Архіў рок-музыкі

Беларускі гуманітарны фонд „Наша ніва" стварае Архіў беларускай рок-музыкі, які бачыць галоўнай мэтай сваёй дзейнасці збор матэрыялаў і даследаванне паўстання сучаснай незалежнай музычнай традыцыі Беларусі.

Архівам збіраюцца: старыя, рарытэтныя, аўдыё-відэаматэрыялы, друкаваная прадукцыя (газеты, часопісы, афішы, плакаты і да т.п.).

Архіў звяртаецца да рэгіянальных рок-клубаў, музычных арганізацый і проста цікаўных меламанаў з просьбай дапамагчы ў зборы інфармацыі па мясцовым рок-руху.

Зацікаўленым асобам просьба звяртацца па адрасе: Беларусь, 220085, Менск, а/с 5, „Архіў беларускай рок-музыкі" (на імя Віталя Супрановіча), або па тэлефоне (017) 231-04-08 (клікаць Сяргея Сахарава).

Ніва

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1998 r. upływa 5 grudnia 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

Фрашкі пра нашых

### Праведны Мікола П.

Ён нават думае ўжо
толькі вершамі
— Лінейку прозы гне ў гібкі
пруцік —
Але ўсё першымі, але ўсё лепшымі;
Думкамі слушнымі біч Божы
круціць.

**Вандал Арлянскі**

## Думкі ў час мігрэні

* Несмяротнай з'яўляецца адна толькі Смерць. Што за парадокс!

* Аптымісту шчасце можа даставіць нават акуратны гадзіннік.

* Не разумею тых, якія дзеля захавання здароўя адмаўляюць сабе ва ўсім. Як жа прыкра будзе ім уміраць зусім здаровымі.

* Пра тое, што грошы шчасця не даюць, ад бедных не пачуеш.

**Пётр Байко**

# Ніўка



*Містэрыя.* Фота з архіва

# Ранейшыя святкаванні

Мінае 80 гадавіна „вялікага кастрычніка". Як не глядзі — юбілей. Нашым малодшым чытачам хочам прыблізіць, як гэтую падзею раней адзначалі нашы продкі.

**1957 г.**

На першай старонцы „Нівы" (н-р 44) вялікімі чырвонымі літарамі:

„Слава Вялікаму Кастрычніку — які адкрыў новую эру!"

Апрача публіцыстыкі змешчана была паэзія, прысвечана памяці бальшавіцкіх змагароў.

**Першы выстрал з „Аўроры"**

*Якубу Мартынюку — матросу з „Аўроры"*

Халодныя хвалі Балтыйскага мора
У высокі ўздымаліся вал.
Над берагам Невы
стаяла „Аўрора",
Чакала на першы сігнал.

І вось ўжо раздаўся выстрал
з гарматы,
Пранёсся над горадам гук.
У дыме, з рукою да вока паднятай,
Стаяў беларус — Мартынюк.

**1967 г.**

**Урачыстае святкаванне**

Вечар 5 лістапада 1967 года. Вялікая зала ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ была запоўнена да апошняга месца. Не змяшчае ўсіх ахвотных прысутнічаць на сходзе. Тут адбываўся ўрачысты юбілейны сход прысвечаны 50-годдзю Кастрычніка. Урачысты сход адкрыў старшыня ГП **В. Склубоўскі**, а даклад прачытаў сакратар ГП **Ул. Юзвюк**. Калі пачуліся першыя словы даклада, у зале наступіла поўная цішыня. Словы аб падзеях у 1917 годзе і ў наступных гадах Савецкай улады зачаравалі прысутных, быццам бы словы найпрыгажэйшай паэзіі. З асаблівым захапленнем і радасцю прымалі прысутныя словы дакладчыка, у якіх гаварылася аб удзеле палякаў у рэвалюцыі, а перад усім нашых беларусаў. Бо і чаму ж не ганарыцца **Мартынюком** з Новаберазова, чалавекам, які першы падаваў каманду сігнала змены новай эпохі.

**1977 г.**

**Пераможны паход**

Калі шэсцьдзесят год таму назад апранутыя ў салдацкія шынелі рабочыя і сяляне пайшлі на штурм сядзібы буржуазнага ўраду — Зімовага палаца, яны адкрывалі цалкам новую эпоху ў гісторыі чалавецтва.

У выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі паўстаў Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — першая на зямной кулі магутная дзяржава працоўных, якая стала натхняючым прыкладам і надзейнай апорай усіх прагрэсіўных сіл на свеце.

**1987 г.**

„70 год Кастрычніка" — ушанавала толькі „Зорка" змяшчаючы здымак новага савецкага самалёта, які планаваўся выкарыстоўвацца для касмічных палётаў.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Памірае Ленін. На смяротным ложы што і раз пападае ў летаргію. На хвіліну апрытомнеў:

— Сталін! Ты пры мне? Ты не можаш быць маім наследнікам, бо ты загубіш палову народа...

Страціўшы чарговы раз прытомнасць, па хвіліне зноў прабуджаецца:

— Сталін! Ты пры мне? Ты не можаш быць правадыром народа пасля маёй смерці, бо ты кат і савецкі народ не пойдзе за табою...

— Дык пойдзе за табою, — адказаў Сталін.

* * *

— Хто пабудаваў Беламорскі канал?

— Тыя, што расказвалі палітычныя анекдоты.

— А канал Волга-Дон?

— Тыя, што іх слухалі.

* * *

Буш Гарбачову:

— Бачыў я сёння дзіўны сон: сніўся мне Крэмль, а на ім вялікі чырвоны сцяг...

— Гэта правільна, — адказвае Гарбачоў.

— Вялікі сцяг з надпісам... — прадаўжае Буш.

— А што на ім было напісана?

— Не мог прачытаць; не ўмею пакітайску.

* * *

— Чым розніца амерыканскі СНІД ад расейскага?

— Амерыканскі невылечны, а расейскі непераможны.

* * *

— Чым розніца царызм ад савецкага строю?

— Традыцыяй: у царызме ўлада пераходзіла з бацькі на сына, а пры саветах — з дзеда на дзеда.

* * *

Валэнса выбраўся на рыбалку. Закінуў вудачку і адразу злавіў прыгожую рыбку:

— Скажы, рыбка, ты мо з золата?

— Не, я з „Салідарнасці".

— О-оо! То ты не ажыццяўляеш жаданняў?..

— Не, я толькі абяцаю.

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Мы з маім мужам пражылі ўжо дзесяць гадоў. Ах, якое ж гэта было каханне! Сынок мой калісь запытаў мяне: мама, а за што ты пакахала тату? А я і кажу яму: за ўсё! Быў такі цудоўны, такі дасканалы, такі закаханы. Не паспела я аб нечым падумаць, як усё гэта прыносіў мне на падносе. Не ведала я хлопца прыгажэйшага і лепшага за яго!

І мушу прызнацца табе, што на працягу гэтых дзесяці гадоў ён амаль не змяніўся. Заўсёды ўважлівы да мяне і сыноў, працавіты, гатовы прыйсці ў любы момант з дапамогай. Гм, вось толькі ў справах інтымных можа нешта змянілася. Менавіта.

У справах інтымных паявілася нейкая абыякавасць. Не, не скажу, што мы ўжо не маем палавых зносін або робім гэта надта рэдка. Усё адбываецца паранейшаму, аднак жа... не так палка, як раней. Ну, разумееш, больш звычайна, так, быццам бы мы павячэралі ці з'елі абед. Новага мала, а старое ўжо крыху прыелася.

І вось што я заўважыла ў апошні час. Калі мы знаходзімся не ў сваёй хаце, а на новым месцы, наша каханне становіцца больш гарачае, такое, як было ў пачатках нашага знаёмства.

Найперш здарылася гэта, калі мы былі ў гасцях у маёй сяброўкі. Мой муж увесь час быў вельмі мілы, туліўся да мяне, цалаваў. А пасля мы пайшлі наверх. Ведаеш, у сяброўкі вялікая віла, там пакояў не злічыць. Сяброўка, калі ўбачыла, што мы хочам адасобніцца, адабральна ўсміхнулася.

Божа, як мы кахаліся ў чужой спальні! Я нават падумала, што толькі ў фільмах такое бывае. І ўсё па-новаму! Адкуль, здаецца, столькі інвенцыі...

Тое, пра што я табе пішу, здарылася гады тры таму. Я нават была, невядома чаму, зайздросная. Раўнавала мужа да гэтай хаты, да сяброўкі, якая нас гасціла. Мне здавалася, быццам муж уяўляў сабе, што ўсё тое рабіў з ёю, а не са мною.

А пасля здарылася, што мы з дзецьмі выехалі на адпачынак у Закапанае. І там паўтарылася гісторыя, падобная на тую, якая здарылася ў сяброўкі. Каб ты ведала, Сэрцайка, які мой муж быў гарачы. Усё, што мы перажылі з ім у маладосці, нахлынула на мяне з цэлай сілай. Дахаты мы вярнуліся не толькі з новымі сіламі, але наогул нейкія адноўленыя.

Ну, а сёлета мы паехалі ўсёй сям'ёй на Мазуры. Жылі ў вялікай палатцы на кэмпінгу. Ведаеш, Сэрцайка, трэба ашчаджаць. Дзеці былі з намі, а муж ізноў стаў такі, які быў з самага пачатку. Божачкі, мы толькі чакалі, калі яны заснуць моцным сном. А можа гэта іх прысутнасць яшчэ больш узбуджала нас?.. Было цёмна, а мы ў палатцы і наша блізкасць у гэтых нетыповых умовах... Што гэта было — ты не ўяўляеш. А мо, праўда, і ты, Сэрцайка, нешта свае перажыло, тады, даражэнькае, прабач.

І вось, калі вярнуліся мы дахаты, я пачала думаць. Думала-думала, ды вырашыла, што я, відаць, ужо свайму мужу абрыдла. Вяртаемся дахаты — і ўсё становіцца на свае месца. Кожны з нас займаецца неабходнымі справамі, ходзіць на працу, а секс адыходзіць на далейшы план, а ў лепшым выпадку становіцца толькі адным з элементаў звычайнага жыцця. І мне робіцца сумна. Можа, Сэрцайка, з намі нешта не так, парай!

**Ірэна**

Ірэна! А што, ты думала, што з сексу будзеш хлеб есці?! Пэўна, што гэта толькі адзін з элементаў звычайнага жыцця. Трэба ж і на працу пайсці, і яды наварыць, і прыбраць, і дзяцей абмыць-накарміць. Во гэта сапраўднае, нармальнае жыццё.

Усё ў вас, як ты кажаш, ажывае нанава, калі вы свабодныя — у гасцях ці на адпачынку. Тады ў вашай галаве не клубяцца думкі наконт таго, ці хопіць да першага або ці не прынясе дзіця двойку са школы. Зразумей, яно ва ўсім так!

Але ёсць і яшчэ адно. Каханне не ідзе ў пары з манатоніяй. Добрыя партнёры заўсёды патрапяць уразнастайніць свой секс (і неабавязкова заганным чынам). Адным з такіх пачынанняў з'яўляецца нейкі выезд, новае месца. І гэта зусім не будзе абазначаць, што муж убачыў у табе новую дзяўчыну.

**Сэрцайка**